ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

Год XXXV № 328 Нью Ёрк - студзень-сакавік - 1986 - January-March - New York Vol. XXXV, № 328

# ДА 500-Х УГОДКАЎ АД НАРАДЖЭНЬНЯ Ф. СКАРЫНЫ

(Скарочаны даклад)

Др. Францішак Скарына, тыповы й выдатны працаўнік эпохі Адраджэньня, нарадзіўся каля 1485 г. у заможнай купецкай сям'і Лукаша Скарыны ў Полацку. У 1504 г. паступіў ён на Кракаўскі ўнівэрсытэт, дзе ў 1506 г. здабыў навуковую годнасьць бакалаўра, а пасьля й доктара сямёх вызваленых навукаў.

У 1512 г. ў італьянскай Падуі, як падаюць архіўныя акты, Скарына бліскуча здаў экзамены й атрымаў сваю другую навуковую годнасьць — у лекарскіх навуках доктара. Перад гэтым ён мусіў недзе студыяваць мэдыцыну — праўдападобна, на ўнівэрсытэце Капэнгагі ў Даніі, дзе ён быў і сакратарам караля Ганса.

Апрача трох актавых запісаў пра Скарыну, што захаваліся ў Старым Архіве ўнівэрсытэту ў Падуі, у „Залі Сарака", унівэрсытэт мае і Скарынаў партрэт. На сьценах гэтай залі, дзе калісь выкладаў слаўны Галілео Галілей, у два рады разьмешчаныя партрэты сарака найбольш выдатных мужоў сусьветнае навукі й культуры, што свае веды й навуковыя годнасьці здабывалі ў Падуанскай акадэміі на працягу сямісотгодзьдзя ейнага існаваньня. На партрэце ўгары напіс паітальянску: Franciscus Skorina de Polocko, Rutheno, 1512. Партрэт Скарыны ў Падуі — довад таго, што ўнівэрсытэт ганарыцца тым, што ў ягоных мурох Скарына калісьці здабыў сваю дакторскую годнасьць у галіне мэдыцыны.

Наступны сьлед жыцьця й дзейнасьці Скарыны — ужо не архіўныя запісы, а кніга ПСАЛТЫР, выдрукаваная ім 6 жніўня 1517 г. ў Празе Чэскай. У тым-жа годзе зь ягонае праскае друкарні выходзяць у ягоным беларускім перакладзе біблейныя кнігі: СЬВЯТОГА ЮВА, ПРЫСЛОВІЯ ПРЭМУДРАГА САЛАМОНА, ІСУСА СЫНА СІРАХОВА. У наступным 1518 г. выходзяць з друку: ЭКЛЕЗІАСТЭС, ПЕСЬНЬ ПЕСЬНЯМ, ПРЭМУДРАСЬЦІ БОЖЭЙ САЛАМОНА, чатыры кнігі ЦАРСТВАЎ, кніга ІСУСА СЫНА НАВІНА. У 1519 г. выйшлі з друку іншыя 13 біблейных кнігаў, апошняя выйшла 15 сьнежня кніга СУДЗЕЙ ІЗРАЭЛЬСКІХ.

Дык на працягу трох няпоўных гадоў Скарына выдаў у Празе 23 біблейскія кнігі, агульным лікам 2400 бачынаў друку. Скарынаў праскі друкарскі пачын наскрозь піянэрскі. Яму самому давялося рыхтаваць друкарскую снасьць, праектаваць шрыфт для друкарні. За аснову для формы літараў ён браў полацкія рукапісы. Ён мусіў прыдбаць і вышкаліць тэхнічных супрацоўнікаў для набору й друку кніг, бо сам Скарына мусіў займацца перакладной, рэдактарскай ды карэктарскай працай. Рабіць ён усяго сам ня мог, асабліва пры такой шпаркай выдавецкай дзейнасьці. Адна кніга выходзіла кажныя больш-менш 6 тыдняў.

Для друкарскае справы патрэбная была вялікая сума грошай. З пароблёных Скарынам прыпісак на ягоных кнігах мы ведаем, што фінансавалі праскія выданьні памагаў яму багаты купец-фінансір сын райцы места Вільні Багдан Онкаў (Анкевіч).

Скарынавы кнігі выданыя памастацку: прыгожы шрыфт, дасканалая папера, у кнігах ёсьць каля 50-ці дрэварытных ілюстрацыяў, вялікая колькасьць дэкаратыўных вялікіх літараў, заставіцаў і віньетках. На сваіх кнігах Скарына ставіў сваё імя — Францішак Скарына, сваю навуковую годнасьць — „у лекарскіх навуках доктар", месца свайго паходжаньня — „з слаўнага града Полацка", ды дату выхаду кнігі. У трох кнігах зьмешчаны й ягоны дрэварытны партрэт.

У васнову свайго перакладу Скарына ўзяў тэкст лацінскае Біблії „Вульгаты", карыстаўся ён і Бібліяй чэскага перакладу з 1506 году. На пачатку кажнае біблейскае кнігі Скарына даваў свае ўводныя, вельмі цікавыя прадмовы, а на канцы кнігі замыкальныя прыпіскі, „калафоны" ,з датаю й месцам яе выхаду ды імём і прозьвішчам выдаўца — значыць, сваім.

У Скарынавых прадмовах адбітыя высокаідэйныя матывы ягоных выдавецкіх задумаў, ягоны шырокі гуманістычны сьветагляд. Скарына выдаваў свае кнігі ня так для царкоўнага ўжытку, як для „дабра й пажытку люду паспалітага", для асьветы яго, духовага й маральнага ўзбагачаньня.

Па выхадзе апошняе ведамае друкаванае кнігі Скарыны ў Празе, КНІГІ СУДЗЬДЗЯЎ, 15 сьнежня 1519 г., зь невядомых прычынаў праская выдавецкая дзейнасьць Скарыны абрываецца. Ведама толькі, што на пачатку 1520-х гадоў др. Францішак Скарына быў ўжо ў Вільні, дзе ён сарганізаваў друкарню, першую на беларускай зямлі й першую ўва ўсёй Усходняй Эўропе, ды выдаў у ёй дзьве кнігі: у 1522 г. МАЛУЮ ПАДАРОЖНУЮ КНІЖКУ і ў 1525 — АПОСТАЛА. І гэтак, 1522 год — гэта год пачатку беларускага друку на беларускай зямлі, пачатак друку ўсяе Усходняе Эўропы.

Шрыфт віленскай друкарні Скарыны адменны ад праскага. Відаць, як паказваюць на гэта факты, у часе пераезду Скарыны з Прагі ў Вільню ў Вроцлаве былі скапфіскаваныя ня толькі Скарынавы кнігі, але й ягоная друкарская снасьць.

МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА мае яшчэ прыгажэйшы шрыфт за шрыфт праскіх Скарынавых выданьняў і вельмі эстэтычна выглядае зь ейнымі ілюстрацыямі, аздобленымі вялікімі літарамі ды заставіцамі. Яе называюць славянскім эльзэвірам.

Пасьля надрукаваньня віленскіх кнігаў у гадох 1522-1525, Скарына адбыў нядаўгае падарожжа у Маскву, дзе ён хацеў пашырыць свае кнігі й здабыць фінансавыя сродкі для прадаўжаньня свае выдавецкае дзейнасьці. Ды на загад вялікага князя маскоўскага Васіля Іванавіча Скарынавы кнігі былі скапфіскаваныя й публічна ў Маскве спаленыя. Спаленьне ў Маскве кнігаў напэўна адна з прычынаў сучаснага невялікага ліку захаваных Скарынавых кнігаў.

У часе прабываньня ў Вільні Скарына судзіўся з жончынымі сваякамі за дом. У Літоўскай Мэтрыцы захаваўся запіс пра вынік суду. Дом быў прызнаны за Скарынамі, а жончыным сваякам загадана „у гэтай справе вечнае маўчаньне меці."

Гэта было ў 1529 г., а ў ліпені таго-ж году ў Пазнані памёр Скарынаў брат Іван, які меў у Пазнані вялізны гуртовы склад скураў — каля 50 тысяч скураў рознага гатунку. Як хутка выявілася, меў Іван і вялікія даўгі, якія пасьля былі сплачаныя скурамі. Цікава тут адзначыць, што расьпіскі Івана ды купца й райцы места Пазнані Кляўза Габэрлянда пісаныя былі „ін вульгары рутэно скрыптум", інакш кажучы — пабеларуску.

Хутка па заканьчэньні справаў братавых даўгоў др. Скарына ўвесну 1530 г. пераяжджае ў Каралевец (Кэнігсбэрг) да гэрцага Прускага Альброхта, але доўга там Скарына не быў. 16 траўня 1530 г. ён дастае ад гэрцага рэкамэндацыйныя лісты ды вяртаецца нібыта накаратка ў Вільню.

Увесну 1532 г. Скарыне давялося быць у Пазнані у справах віленскага біскупа Яна, якога сакратаром і надворным лекарам ён тады быў. Як выявілася, Іван Скарына меў больш даўжнікоў, як тых скураў, каб сплаціць запазычаньні. Даўжнікі скарысталі з прыезду Францішка Скарыны ў Пазнань і дамагліся ягонага арышту за братавы даўгі. Францішку Скарыну давялося прабыць у зьняволеньні 9 тыдняў, пакуль Іванаў сын Раман ня прыехаў з Гданьску й ня выстараўся ад караля зваляненьня свайго дзядзькі, сьветчачы, што толькі ён, Раман Скарына, адказны за бацькавы даўгі й гатоў іх сплаціць.

Судовы разгляд скончыўся тым, што ў лістападзе 1532 г. др. Ф. Скарына атрымаў ад караля дзьве гра-

(Заканчэньне на б. 4-й)

## СКАРЫНАВЕДНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ

Каб ушанаваць вялікага сына Беларускай Зямлі, першадрукара й асьветніка Усходняй Эўропы Францішка Скарыну, сёлета 27-29 верасьня ў Лёндане адбылася канфэрэнцыя. На яе зьехаліся нашы суродзічы-навукоўцы й запрошаныя госьці з Англіі, Польскай Народнай Рэспублікі, Заходняй Нямеччыны, Ізраілю, Францыі, Гішпаніі, Бэльгіі, Злучаных Штатаў Амэрыкі й Канады. Канфэрэнцыю, на тэму „Францішак Скарына й Адраджэньне ў Беларусі", арганізавалі супольна Англа-Беларускае Таварыства й Беларуская бібліятэка-музэй імя Ф. Скарыны ў Фінчлей, на паўночным прадмесьці Лёндану.

Дырэктар аддзелу славянаведы пры Лёнданскім унівэрсытэце, др. Майкл Бранч вітаў удзельнікаў канфэрэнцыі вечарам у будынку Лёнданскага ўнівэрсытэту, дзе была нагода між сабой пазнаёміцца й пагутарыць.

У суботу 28-га верасьня ў залі дому, што належыць да Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Фінчлей, канфэрэнцыю адкрыў праф. Лівэрпульскага ўнівэрсытэту й ганаровы віцэ-старшыня Англа-Беларускага Таварыства Арнольд Макмілін. Сп. Янка Міхалюк вітаў удзельнікаў ад Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі. Айцец Аляксандар Надсон, дырэктар бібліятэкі, даў кароткі нарыс біяграфіі й дзейнасьці Скарыны ды выказаў шкадаваньне, што слабы стан здароўя ня даў магчымасьці прыбыць на канфэрэнцыю др. Вітаўту Тумашу, які пасьвяціў 40 гадоў вывучэньню жыцьця й выдавецкай дзейнасьці Францішка Скарыны. Айцец Надсон згадаў і іншых ведамых дасьледчыкаў Скарыны ды той факт, што на эміграцыі, ня гледзячы на сьціплыя магчымасьці навуковай працы, зроблена ў галіне скарынаведы ці ня больш чымся ў „савецкай" БССР, улады якой, зь ведамых прычынаў, адкідаюць вялікія здабыткі ў скарынаведзе эміграцыйных дасьледчыкаў.

**Праф. Джэймс Дынглі з факультэту славістыкі Лёнданскага ўнівэрсытэту гаварыў пра пэрыяд, у якім жыў і дзейнічаў Скарына. Рыцар XVI ст. Шкот Солтан, названы Аляксандровічам, у сваіх падарожжах зьведаў Вялікае Княства Літоўскае, а пасьля падарожнічаў па цэлай Эўропе й Малой Азіі, гэтым чынам пашыраючы весткі й пра бацькаўшчыну Францішка Скарыны.** Праф. Дынглі схарактарызаваў

(Заканчэньне на б. 4-й)

## XVII-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

**30-31 жніўня — 1 верасьня 1986 г. у Клійўленьдзе, Агаё, ЗША**

Тэма Сустрэчы:

„БЕЛАРУСЫ АМЭРЫКІ НА 100-ГОДЗЬДЗЕ СТАТУІ СВАБОДЫ, 1886 - 1986"

У часе Сустрэчы мае адбыцца ўрачыстасьць закладзінаў фундамэнту галоўнага будынку грамадзкага цэнтру селішча „Полацак" у Стронгсвіле, Агаё.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і Згуртаваньне Беларусаў Канады ветліва запрашаюць Суродзічаў узяць удзел у Сустрэчы.

## СТАТУЯ СВАБОДЫ І БЕЛАРУСЫ




Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне цесна супрацоўнічае зь кіраўніцтвам Фундацыі Аднаўленьня Статуі Свабоды (The Statue of Liberty — Ellis Island Foundation, Inc.) ды ўжо ўнесла **першую тысячу даляраў** у фонд аднаўленьня Статуі ў сувязі із 100-годзьдзем ейнае пабудовы. Прадстаўнікі БАЗА — старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА сп. Антон Шукелойць і ў. др. Вітаўт Кіпель — забавязаліся праводзіць далейшы збор грошай на гэты праект ды збор матар'ялаў да гісторыі іміграцыі праз абток Эліс-Айленд, празь які, як ведама, прайшла асноўная маса беларускіх імігрантаў.

Матар'ялы зьбіраюцца для музэю, які будзе адлюстроўваць гісторыю Эліс-Айленду. Арганізатары музэю зацікаўленыя ў расказах тых эмігрантаў, якія праз гэты востраў праходзілі ў часе ўезду ў Злучаныя Штаты Амэрыкі. Эліс-Айленд быў асноўным праходным пунктам імігрантаў з Эўропы ад 1892 году да 1954-га.

Кіраўніцтва Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня зварачаецца гэтым да беларускага грамадзтва з заклікам паведаміць БАЗА, дзе жывуць Беларусы, якія праз Эліс-Айленд праяжджалі ў часе іміграцыі, каб зь імі можна было зрабіць інтэрвію для музэю. **Гэткімі інтэрвію мы загарантуем беларускаму голасу** месца ў музэйных архівах, якімі будуць карыстацца нашчадкі. Гэтыя галасы будуць помнікам усім беларускім імігрантам, якія праз Эліс-Айленд праходзілі.

БАЗА далей праводзіць таксама збор грашовых ахвяраў на гэты важны праект. Ахвяры на аднаўленьне Статуі Свабоды й музэй іміграцыі здымаюцца з падаткаў. Чэкі просім выстаўляць на

**Byelorussian-American Ass'n
(Ellis Island-Statue of Liberty)
EN — BYE**

і слаць на адрыс:
BAZA, 166-34 Gothic Drive,
Jamaica, N. Y. 11432.

**Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**

## ЮБІЛЕЙНЫ ГОД СКАРЫНЫ Ў КАНАДЗЕ

На пачатку 1985 году Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў Канады пастанавіла адзначыць 500-я ўгодкі ад нараджэньня Доктара Францішка Скарыны. Гэткую-ж пастанову прыняў у травені і 30-ты агульны зьезд ЗБК.

Запросіны на сьвяткаваньне, былі разасланыя Беларусам ды іхным прыяцелям у Канадзе, ЗША, Заходняй Нямеччыне, Гішпаніі, Бэльгіі, Польшчы й Аўстраліі. Была падрыхтаваная скарынінская выстаўка, якая напамінала выстаўкі, ладжаныя намі ў 1967 г. на 450-я ўгодкі Беларускага Друку ды ў 1972 г. — на 450-я ўгодкі друку на беларускай зямлі — у Вільні.

У дзень сьвяткаваньня, 14 верасьня, ля Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру пры 524 Ст. Клярэнс авэню ў Таронце ўзьвіваліся беларускі й канадыйскі сьцягі. Увечары ў царкве сьв. Кірылы Тураўскага Архіепіскап Мікалай адслужыў малебен за Беларускі Народ.

На франтовай сьцяне залі Цэнтру на шаўкавістым бел-чырвона-белым сьцягу красаваўся вялікі ,выкананы мастаком Пётрам Мірановічам, алейны партрэт др. Францішка Скарыны. З дастойнасьцю зьвісалі са сьцен квітнеючыя Бацькаўшчынай дываны. З партрэтаў пазіралі вочы Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Івана й Антона Луцкевічаў; на правым баку залі расьсьцілалася выстаўка, прысьвечаная Юбілею.

Экспанаты на выстаўцы былі разьмешчаныя ў пяцёх гнёздах: **„Партрэты Скарыны"** (Скарынаў партрэт зь ягонае Біблії, з „Залі сарака" ў Падуі, партрэты работы П. Сяргіевіча, Я. Кругера, С. Геруса, В. Саўчанкі, А. Глебава, А. Салькова ды інш.); **„Скарына ў Падуі"; „Гравюры й друкі Скарыны"; „Пасьлядоўнікі Скарыны"; „Скарыніяна"** (выданьні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, Англа-Беларускага Таварыства ў Лёндане; менскія публікацыі).

Пад канец абеду, прыгатаванага беларускімі жанчынамі пад кіраўніцтвам сп-ні Марыі Ганько, а пачатага малітвай Уладыкі Мікалая, старшыня сходу сп. Ганько прывітаў удзельнікаў урачыстасьці, сярод якіх былі Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч, прадстаўнік Антарыйскага Міністэрства Іміграцыі й Культуры др. Джон Станлей, прадстаўнік Беларускага Эвангельска-Баптысцкага Брацтва ў ЗША й Канадзе сп. Юры Рапэцкі, Беларусы зь Беласточчыны, Беларуска з Аўстраліі ды нашы суседзі з Дэтройту (ЗША).

Кароткую інфармацыю аб др. Францішку Скарыну дала ў ангельскай мове сп-ня Івонка Сурвіла. Даклад на тэму — „Доктар Францішак Скарына, ягонае жыцьцё, дзейнасьць і значэньне" зрабіла др. Раіса Жук-Грышкевіч.

Пасьля дакладу, зьмест якога пераданы ў іншым месцы гэтае газэты, прамаўляў сп. Юры Рапэцкі. Навязваючы да дзейнасьці Францішка Скарыны, ён гаварыў аб эвангельскай і нацыянальна-беларускай дзейнасьці Беларускага Евангельска-Баптысцкага Брацтва, аб беларускіх рэлігійных перадачах на Бацькаўшчыну, аб наведваньні сябрамі Брацтва Беларусаў Беласточчыны ды праводжаньні сярод іх рэлігійна-беларускай дзейнасьці, аб стараньнях Брацтва перавыдаць існуючы ў беларускай мове Новы Запавет ды патрэбе выданьня Бібліі пабеларуску.

Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч вітаў прысутных са сьвятам Скарынавага юбілею й віншаваў Згуртаваньне Беларусаў Канады з тым, што яно першае за мяжой у такім маштабе й такой урачыстасьцю адзначыла 500-я ўгодкі ад нараджэньня Доктара Францішка Скарыны.

Мгр. Васіль Плескач гаварыў аб патрэбе годнага адзначэньня ў 1988 годзе 400-годзьдзя Статуту Вялікага Княства Літоўскага, выдатнага помніка беларускай культуры.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

### ДАР САКАВІКА

Абавязкам кожнага Беларуса узяць удзел у зборы дабраахвотных ахвяраў на „Дар Сакавіка", які традыцыйна праводзіцца раз на год скарбнікам Рады БНР у сакавіку.

Ахвяры гэтыя Рада БНР выкарыстоўвае дзеля абароны беларускага імя ад бальшавіцкіх паклёпаў, ды дзеля удзелу ў міжнародных палітычных зьездах і канфэрэнцыях.

BIELARUS

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 15 yearly.

„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Высылка зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## РУСЫФІКАЦЫЯ МЕНСКІХ ВУЛІЦАЎ

Апошнімі гадамі ў савецкай Беларусі друкуецца значна болей чым раней краязнаўчых кніжак гістарычна-геаграфічнага профілю. Пераважна гэта даведнікі для турыстаў ды аматараў краязнаўства. Каля 75 працэнтаў гэткае літаратуры выдаецца парасейску і толькі працэнтаў 25 друкуецца ў мове беларускай. Выдаавецтвы апраўдваюць гэткую моўную дыспрапорцыю тым, што маўляў турыстам лягчэй чытаць парасейску. Разважаючы гэтак, дык яно, фактычна, трэба было-б гэткі від літаратуры друкаваць у мовах замежных.

Аналіз гэтага віду літаратуры досыць паказальна сьветчыць, што тут мы маем дачыненьне ня толькі зь перавагаю адно расейскае мовы, але й перавагаю расейскага зьместу, бо праз геаграфічныя назовы, асабліва назовы вуліцаў савецкая ўлада замоўчвае ды русыфікуе беларускую гістарычна-культурную спадчыну. Гляньма, прыкладам, на назовы вуліцаў Менску як яны падаюцца ў дзьвюх кніжках: у даведніку „Минск — энциклопедический справочник", які выйшаў у выдавецтве „Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя" ды кніжку „Улицы помнят" аўтарства Вадзіма Жучкевіча, выдавецтва „Беларусь".

Паводля гэтых кніжак, у Менску цяпер каля тысячы вуліцаў. Назовы вуліцаў можна згрупаваць у колькі катэгорыяў: найбольшая зь іх — гэта вуліцы з назовамі, прысьвечанымі партыі, ураду, савецкай сыстэме, партызанам. Гэткіх вуліцаў у Менску ладна панад 50 працэнтаў. У гэтай групе вуліцаў чамусьці вельмі мала назоваў, зьвязаных зь гісторыяй савецкай Беларусі, зь імёнамі беларускіх палітычных дзеячоў і гістарычных постацяў. У выпадку дзеячоў БССР, дык відаць таму, што шмат хто зь іх гэтай-жа ўладай зьнішчаны.

Другая колькасна катэгорыя вуліцаў — гэта вуліцы, што адлюстроўваюць геаграфічныя назовы, як прыкладам вуліца Старажоўская, Віленская, Ракаўская. У гэтай катэгорыі вуліцаў таксама далёка ня ўсё так як належалася-б. Тут старыя беларускія назовы, як напрыклад вуліцы Сьляпянская, Берасьцянская, замененыя савецкімі расейскімі назовамі: Алтайская, Іркуцкая, Тамбоўская, Сібірская і г.д.

Яшчэ адна катэгорыя вуліцаў, назовы якіх цалкам зьмененыя, гэта вуліцы, што адлюстроўваюць ляндшафт Менску: пазьнікалі, прыкладам, на Камароўцы вуліцы Ямная, Горны Завулак, а на іх месца зьявіліся гэткія вуліцы як Інструмэнтальная, Калектарная і да гэтага падобныя.

Найгорш аднак выглядае справа ў катэгорыі вуліцаў, названых у гонар навукоўцаў, дзеячоў культуры, гісторыкаў, наагул выдатных люддзей Беларусі. У гэтай катэгорыі ў беларускай сталіцы налічваецца ўсіх каля ста вуліцаў, і абсалютная бальшыня зь іх названыя прозьвішчамі асобаў, якія ніякага дачыненьня да Беларусі ня мелі: вуліцы Ламаносава, Вавілава, Курчатава ды дзесяткоў іншых расейскіх вучоных. А вось, прыкладам, вуліцы Міколы Бліадуха, першага беларускага геоляга, які ў дваццатых гадох запачаткаваў комплекснае геалягічнае вывучэньне Беларусі, няма. Няма ў Менску й вуліцы Васіля Купрэвіча, заслужанага беларускага навукоўца-батаніка, былога прэзыдэнта АН БССР. Маглі-б таксама быць у беларускай сталіцы й вуліцы Івана Чэрскага, ведамага дасьледніка Сібіры, паўстанца 1863 году, Ігната Дамейкі, Канстантына Ельскага, Казімера Семяновіча ды шмат іншых выдатных Беларусаў. Але вуліцаў зь іхнымі імёнамі няма.

Яшчэ горш з вуліцамі, названымі ў гонар дзеячоў культуры: дзесяткі выдатных расейскіх артыстаў і мастакоў сустракаюца ў назовах беларускае сталіцы, але няма чамусьці ў сталіцы БССР вуліцы Ларысы Александроўскай, Мікалая Аладава, Рыгора Шырмі, Лідзіі Ржэцкай. Праўда, ёсьць у Менску параўнальна новая уліца Францішка Скарыны, ле гэта маленькая вулічка, далёка на ўскраі гораду.

Асабліва непаважна выглядае справа з вуліцай, на якой нарадзіўся Максім Багдановіч: названая гэтая вуліц імём Максіма Горкага, а імём Багдановіча нядаўна назвалі малую новазабудаваную вуліцу далёка на пэрыфэрыі гораду. І на вялікі жаль, у Менску дасюль яшчэ не назваліі вуліцы імём выдатнага мянчаніна паэта Алеся Гаруна.

**В. Зубкоўскі**

## НА МІЖНАРОДНЫМ КАНГРЭСЕ

Ад 30-га кастрычніка да 4-га лістапада 1985 г. ў Вашынгтоне адбываўся 3-ці Сусьветны Кангрэс Дасьледнікаў Савецкага Саюзу і Ўсходняе Эўропы. На Кангрэсе былі зачытаныя даклады на беларускія тэмы: „Беларуская кнігаведа ў БССР у гадох 1924-1934", дакладчыца — сп-ня Зора Кіпель у сэкцыі „Кнігаведа ў СССР і ўва Ўсходняй Эўропе" (старшыняваў у сэкцыі др. В. Кіпель).

У беларускай сэкцыі кангрэсу, што адбылася 4-га лістапада, даклады прачыталі: др. Віктар Сянькевіч — „Балцкая тэорыя аб паходжаньні беларускага народу"; др. Янка Запруднік — „Савецкая тэорыя аб росквіце нацыянальных культураў і практыка ў БССР"; др. Вітаўт Кіпель — „Навукова-дасьледніцкая праца Акадэміі Навук БССР, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды Англа-Беларускага Таварыства". Старшыняваў праф. Томас Бэрд, а апанэнтамі дакладчыкаў былі др. Маргарыта Бэтц і сп-ня Зора Кіпель.

## ЛІТАРАТУРНЫ ВЕЧАР, ШТО НЕ АДБЫЎСЯ

Паэт Васіль Зуёнак прыбыў сёлета ў Нью-Ёрк у складзе дэлегацыі БССР на Генэральную Асамблею ААН. Штагоду ў склад беларускае дэлегацыі трапляе хто-небудзь зь беларускіх літаратараў, і апошнімі гадамі штагоду ў Нью-Ёрку адбываліся літаратурныя вечары беларускіх пісьменьнікаў. Ладзіў гэтыя вечары факультэт славістыкі Куінскага Каледжу. Куінскі Каледж становіць частку Ньюёркаўскага Гарадзкога Ўнівэрсытэту.

Гэтак, адбыліся літаратурныя вечары Алеся Адамовіча ў 1982 г., Вячаслава Адамчыка ў 1983-м, Рыгора Барадуліна ў 1984-м. Ранейшымі гадамі з дакладамі пра беларускую літаратуру й чытаньнем сваіх твораў выступалі Анатоль Вярцінскі, Іван Чыгрынаў, а таксама беларускі паэт з Польскай Народнай Рэспублікі Алесь Барскі. Сёлета была чарга Васіля Зуёнка.

Прафэсар Куінскага Каледжу Томас Бэрд, ад імя факультэту славістыкі, скантактаваўся зь беларускай місіяй пры ААН, дакладней кажучы, з сакратаром місіі Пётрам Бялеевам, сустрэўся з Васілём Зуёнкам, запрасіў яго на вечар. Была ўзодненая дата, замоўленае ўнівэрсытэцкае памешканьне, выдрукаваная праграмка вечару. Але самы вечар гэтак і не адбыўся.

Чаму? Паводля сакратара місіі Бялеева, Васіль Зуёнак быў вельмі заняты сваймі дэлегацкімі абавязкамі. Бялееў спачатку запрапанаваў адкласьці вечар напасьля. А тады, пры яшчэ аднэй спробе ўстанавіць дату сустрэчы з паэтам, Бялееў сказаў, што палавіна беларускае дэлегацыі ад'ехала ўжо на радзіму, а тым, што засталіся, у тым ліку й Зуёнку, даводзіцца выконваць яшчэ больш дэлегацкіх абавязкаў. Нарэшце, на трэйці запыт праф. Бэрда Бялееў проста адказаў, што, нажаль, Зуёнкаў вечар адбыцца ня можа.

Не правяла беларуская дэлегацыя сёлета і іншага свайго традыцыйнага ўжо мерапрыёмства ў Нью Ёрку — наведаньня Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі. Бібліятэка гэтая, як ведама, славіцца багатай калекцыяй беларусікі. Калекцыя гэтая папаўнялася таксама кніжнымі падарункамі ,якія прывозілі з сабой дэлегаты БССР, прыяжджаючы ў Нью Ёрк на сэсіі Генэральнае Асамблеі. Беларускім прадстаўніком заўсёды прыемна было пабачыць на паліцах бібліятэкі кніжную прадукцыю свае рэспублікі, як і цікава было паглядзець, што беларускага выдаецца на Захадзе. Кіраўніцтва Славянскага аддзелу Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі чакала й сёлета візыту беларускае дэлегацыі. Але, як і з Зуёнкавым вечарам, візыт не адбыўся. Аб прычынах можна толькі згадвацца.

Нельга сказаць, што гэта вынік нейкае цэнтральнае савецкае забароны кантактавацца. Бо вось у тым-жа Куінскім Каледжы вечар з дакладам пра Ўкраінскую ССР адбыўся, пра яго навет напісала папулярна газэта „Дэйлі Ньюз". Выглядае, што кіраўніцтва беларускае місіі пры ААН слаба зацікаўленае ў папулярызацыі імя свае рэспублікі паза рамкамі свае беспасярэдняе дзейнасьці ў Аб'еднаных Нацыях. Магчыма, у складзе місіі адбыліся нейкія пэрсанальныя зьмены не на карысьць прапагандаваньня беларускае літаратуры й культуры.

Прыгадваюцца ранейшыя нараканьні некаторых працаўнікоў місіі БССР пры ААН на тое, што кіраўніцтва місіі не ў беларускіх руках, і гэта аніяк ня спрыяе беспасярэднім кантактам беларускіх прадстаўнікоў з амэрыканскім грамадзтвам.

**Арсень Загорны**

### НА РАЗЬВІТАНЬНЕ

**Шмат гадоў газэта „Беларус" друкавалася ў друкарні імя Сьв. Сафіі, што належала Украінскай Праваслаўнай Царкве і знаходзілася ў горадзе Нью-Ёрку. Друкарня гэтая перанесеная цяпер ў штат Нью-Джэрзі, у выніку чаго далейшае выдаваньне „Беларуса" у ёй немагчымае. Гэты нумар газэты — апошні, выдрукаваны ў друкарні імя Сьв. Сафіі. На разьвітаньне з друкарняй рэдакцыя „Беларуса" выказвае найшчырэйшую падзяку ейнаму дырэктару і нашаму прыяцелю сп-ру Андрэю Ліповаму, а таксама наборшчыкам-лінатыпістым сп. сп. Уладзімеру Корнагу і Івану Ткчуку за іхны прафэсіяналізм, добрасумленнасьць і сяброўскае стаўленьне, дзякуючы чаму выдаваньне газэты ды іншых друкаў Выдавецтва „Беларус" і Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня было шмат лягчэйшым.**

**Дорогі друзі! Бажаємо Вам всього найкращого в майбутньому житті та праці на ниві української культури і українсько-білоруської співпраці.**
**З подякою —**

**Выдавецтва „Беларуса"**

### НАВЕДАНЬНЕ „ГОЛАСУ АМЭРЫКІ"

У верасьні й кастрычніку летась др. Вітаўт Кіпель ін інж. Васіль Мельяновіч, з мэтай поўторнага высьненьня патрэбы ўлучэньня беларускае мовы ў праграмы „Голасу Амэрыкі", наведалі дырэкцыю „Голасу". Адказ абодвум наведвальнікам, якія гаварылі ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Фэдэрацыі Беларускіх Клюбаў Рэспубліканскае партыі, быў ранейшы: разумеем патрэбу беларускамоўных перадачаў, але маем тымчасам бюджэтныя цяжкасьці.

### БЕЛАРУС — СТАРШЫНЁЮ ЭТНІЧНАЙ РАДЫ

Інж. Васіль Мельяновіч, старшыня Фэдэрацыі Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў, абраны за старшыню Этнічнае Рады штату Мэрыленд. Газэта „Беларус" вітае сп. Мельяновіча на гэтым адказным становішчы ды жадае ўдачаў у выконваньні новых абавязкаў і ўжыцьцяўляньні арганізацыйных пляна́ў.

### НАЙБОЛЬШ ПАПУЛЯРНЫЯ ПРОЗЬВІШЧЫ

Паводля газэты „Голас Радзімы" (Но. 1, 2.I.86), якая спасылаецца на дадзеныя савецкае статыстыкі, найбольш распаўсюджаныя прозьвішчы на Беларусі — гэта: Міцкевіч, Клімук, Пашкевіч і Кавалёў. Найбольш распаўсюджаныя імёны: Таццяна, Юлія, Алёна, Сяргей, Аляксандар, Андрэй.

*ЛІСТ НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ*

## ДАРАГІ МОЙ СЯБРА, ВІКТАР!

Здаецца, зусім нядаўна мы разьвіталіся з табой на вакзале ў Менску. Тады, у той прыгожы вясьняны дзень, мне хацелася сказаць табе, што гэтае разьвітаньне будзе даволі доўгае, што Бог ведае, калі мы ўжо спаткаемся. Я ведаў цябе і верыў табе, але не хацеў, каб мая таямніца ляжала на табе цяжарам.

Дарагі Віктар, прабач, што тады, на разьвітаньні, я не падзяліўся таямніцай пра свой намер застацца на Захадзе. Крок, на які я пайшоў, я зрабіў, бо мне хацелася волі, хоць там, дзе ты жывеш, урад называе гэта здрадай.

Мы ня бачыліся ўжо шмат часу і ніякай лучнасьці з табою я не прабаваў навязваць. Лісты я пішу толькі да бацькоў, дый тыя не заўсёды даходзяць. У сваіх лістох я пішу толькі пра сябе і вельмі мала пра Амэрыку, краіну, у якой я жыву, ведаючы, што савецкая цэнзура затрымвае мае лісты. Расказаць табе пра сябе ды пра краіну, дзе я цяпер жыву, я мог-бы, хіба, толькі праз радыё.

Памятаеш, Віктар, як хлапчукамі, калі нам было па 12 год, мы лятуцелі трапіць у Амэрыку? Начытаўшыся Марка Твэна і Джэймса Фэнімора Купэра, мы пачалі былі ўжо сушыць хлеб і мелі на воку човен, у якім хацелі па Бярэзіне й Дняпру дабрацца да Чорнага мора, а там, наняцца на параплаў, які-б ішоў у краіну, дзе жылі гэроі нашых мрояў, нашы равесьнікі, прыгоды якіх прыцягвалі да сябе нейкай няведамай сілай.

Яшчэ раз, Віктар, прабач мне, што тады, на разьвітаньні, я не падзялўся таямніцай свайго намеру зьдзейсьніць нашыя дзіцячыя лятуценьні.

Як ты ўжо ведаеш, я не вярнуўся назад на параплаў, калі мы сталі ў адным з партоў Амэрыкі. Бываючы раней у шмат якіх краінах сьвету ды прыяжджаючы дадому на адпачынак, я мусіў адказваць шмат каму, у тым ліку й табе, на пытаньне: „Ну, як там, за мяжою?" Я мог тады расказаць табе толькі аб тмы, што мог пазнаць ды пабачыць за час кароткіх спынак у якім-небудзь порце. Цяпер-жа, па гэтулькіх гадох у Амэрыцы, няблага ўжо валодаючы ангельскай мовай, пазнаўшы штадзённы быт і палітычны лад краіны, якую я зьведаў ад Атлянтычнага да Ціхага акіянаў, магу сказаць табе, Віктар: „Шкада, што не ўцяклі мы ў Амэрыку разам".

Ведаеш, пражыўшы першы год тут, ўсё ніяк ня мог я ўявіць сабе, як гэта Амэрыканцы жывуць без пашпартоў, без прапіскі-выпіскі, без працоўных кніжак, выпісных лістоў ды розных іншых бюракратычных паперак. І табе будзе цяжка даць веры гэтаму, але так яно ёсьць. Цяпер я тут да ўсяго прывык і мяне ўжо ня могуць зьдзівіць ні магазыны, поўныя тавараў, у якіх першы раз, дзівячыся ўсім, падумаў: „Пабачылі-б ўсё гтэа нашыя жанчыны, яны-б за тры дні перавярнулі савецкую ўладу дагары нагамі". Ня дзівяць мяне цяпер ні аўтамашыны, ні дарогі, па якіх яны езьдзяць, ні газэты й часапісы, якія тут выходзяць у розных мовах, у тым ліку й пабеларуску, ні нават магчымасьці, якіх у нас ня бывае. Прыкладам — нашыя беларускія цэрквы, якія існуюць у вольным сьвеце, але не на Беларусі. Або яшчэ адзін прыклад — дзесяткі палітычных партыяў, пачынаючы ад малакалькасных камуністычных і нацыстаўскіх ды канчаючы на наймацнейшых, рэспубліканскай і дэмакратычнай партыях Амэрыкі.

Ня дзівіць мяне ўсё гэтае, Віктар, бо я да ўсяго гэтага ўжо прызвычаіўся. Для Амэрыканцаў гэта тое, з чым яны нараджаюцца. Для цябе-ж, Віктар, і ўсяго народу ў Савецкім Саюзе ўсе гэтыя дэмакратычныя магчымасьці недасягальныя, і застануцца недасягальнымі пакуль улада ня будзе ў руках народу, якому, як ты ведаеш, даводзіцца стаяць з лаянкай у чарзе па ўсё і якому дастаюцца адно крошкі із стала, за якім сядзіць вялікае й малое начальства.

Ты можаш папытацца ў мяне: „А ці ў руках народу ўлада ў Амэрыцы?" Магу сказаць, што так, бо тут людзі, якія выстаўляюць свае кандыдатуры на якое-небудзь дзяржаўнае становішча, будзь то кангрэсмэна, сэнатара ці прэзыдэнта, не прызначаныя згары, як у вас, у райкоме ці палітбюро, а выбіраюцца на выбарах народам, і калі выбаршчыкам нейкі кандыдат не падабаецца, дык яго і ня выбяруць. І яшчэ: на кожнае становішча кандыдатуры выстаўляюць дзесяткі людзей, а не адзін, як у савецкай сыстэме. Для прыкладу скажу табе, што ў апошніх прэзыдэнцкіх выбарах свае кандыдатуры на прэзыднэта Злучаных Штатаў Амэрыкі выставілі каля дзьвюх сотняў асобаў.

Усё гэта я абрысовую табе ў агульных рысах, каб ты мог крышку больш ўявіць сабе гэты недасягальны сьвет. Хочацца больш падрабязна расказаць табе аб маіх першых кроках у Амэрыцы, аб амэрыканскім народзе, аб вялікай беларускай эміграцыі, аб беларускай моладзі, якая не саромеецца свае беларускасьці і мовы, як гэта назіраецца ў нас на Беларусі. Я не закіну табе, мой лепшы сябра, што ты цураешся свайго роднага, бо ведаю, якая кроў цячэ ў тваіх жылах.

Віктар, гэты свой ліст хочу закончыць словамі, у якіх унятая вечная памяць па тых, што памерлі з думкай пра свой народ, ды ў якіх таксама заклік да жывых, каб яны не пакідалі штадзённага змаганьня: Жыве Беларусь!

Будзем мець надзею на спатканьне ў будучыні. Як сказала адна нашая паэтэса тут: „Ён прыдзе гэты дзень, ён ня прыйсьці ня можа".

Да хуткага спатканьня, Віктар.
Кліўленд,
2 кастрычніка 1985 г.

**Твой сябра Янка**

## У АБАРОНУ М. КУКАБАКІ




**Фрагмэнт плякату**

У Лёндане 30 кастрычніка 1985 г. перад будынкам савецкага пасольства адбылася аднадзённая галадоўка й дэманстрацыя ў абарону Беларуса-іншадумца Міхала Кукабакі, шматгадовага вязьня сумленьня ў Савецкім Саюзе. Дэманстрацыю ладзілі актывісты з Амнэсты Інтэрнашэнал (аддзел Бэльсайз Парк, раней — Гэмпстэд Юнітэрыян). Штагоду 30-га кастрычніка іншадумцы ў Савецкім Саюзе ды іхныя прыхільнікі ў вольным сьвеце адзначаюць Дзень Палітычнага Вязьня.

Ужо а 7-й гадзіне ўраньні дэманстранты пачалі сваю актыўнасьць на месцы дэманстрацыі, разьмяшчаючы плякаты й партрэт М. Кукабакі ды раздаючы пазьней лістоўкі й зьбіраючы подпісы пад пэтыцыяй да савецкіх уладаў аб вызваленьні Кукабакі й дазволе яму выехаць за межы Савецкага Саюзу.

Вялікае зацікаўленньне праходжых выклікаў ілюстраваны плякат, прысьвечаны Кукабаку.

М Кукабаку ўзялі пад сваю абарону лёнданская група Амнэсты Інтэрнашэнал ды гэткія-ж групы ў Даніі і Аўстрыі. Лік абаронцаў Кукабакі павялічаецца, у чым можна было пераканацца з таго, што на дэманстрацыю прыбылі людзі з розных краінаў вольнага сьвету, каб выказаць сваю салідарнасьць зь беларускім іншадумцам.

Беларусы Лёндану й ваколіцаў падтрымалі дэманстрацыю групай, на ччале якое быў старшыня ЗБВБ сп. Янка Міхалюк.

**А . З.**

## СКАРЫНАВЕДНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ

(Працяг з б. 1-й)



Час слуханя дакладаў

і ведамы тады шырака твор у лацінскай мове „Бэльлюм Прутэнум", у якім аўтар, праслаўляючы Жыгімонта III-га, даў і апісаньні бітвы пад Грунвальдам ды цімала дэталяў пра Вялікае Княства Літоўскае.

Др. Аляксандар Баршчэўскі з Варшаўскага ўнівэрсытэту гаварыў на тэму: „Рэнэсансавая матывацыя ў жыцьці й дзейнасьці Ф. Скарыны".

Даклад сп. Алега Латышонка, выкладчыка Кракаўскага ўнівэрсытэту, быў на тэму: „Студэнты зь Вялікага Княства Літоўскага перад судом рэктара Кракаўскага ўнівэрсытэту ў 1470-1536 гадох". У судовых актах няма прозьвішча Скарыны, затое-ж цікава было паслухаць пра іншых нашых суродзічаў, якіх судовыя акты паказваюць жывымі людзьмі. Былі суды за пазыкі, зьнявагі, бойкі. Былі антаганізмы „Ліцьвіноў" зь Ляхамі ды іншымі. Цікавыя і самыя лікі. Сп. Латышонак адчыніў яшчэ адно ваконца, праз якое можна было зь іншага боку пабачыць асяродзьдзе, у якім вучыўся й выхоўваўся наш вялікі суродзіч Скарына.

Др. Л. А. Г'юс, выкладчыца факультэту славістыкі Рэдынскага ўнівэрсытэту, дала характарыстыку гравюраў у выданьнях Скарыны.

Прафэсар Ганс Ротэ з унівэрсытэту ў Боне (Зах. Нямеччына) гаварыў пра Скарынавы прадмовы й пасьляслоўі.

На наступны дзень, у нядзелю, а. Надсан адслужыў сьв. Літургію, у часе якое згадвалася імя сьв. пам. Біскупа Часлава Сіповіча, закладчыка бібліятэкі й музэю імя Ф. Скарыны дый усіх ахвярных братоў і сьвятароў, дзякуючы якім сяньня ў вольным сьвеце існуе лёнданскі цэнтр беларусаведных дасьледаваньняў. Мусіць агульнае пачуцьцё ўдзельнікаў гэтага сьвята-канфэрэнцыі, у сваім характары гістарычнае, вылілася кранаючым сэрца адсьпяваньнем „Магутны Божа" пры канцы службы ў царкве. Такое, прызнаюся, рэдка калі пачуеш, калі сьпявае з хорам і ўся грамада вернікаў ды з такім пачуцьцём, натхненьнем, адданасьцю.

У першым дакладзе ў нядзелю папаўдні праф. Пол Вэкслер з унівэрсытэту ў Тэль-Авіве (Ізраіль) гаварыў на тэму: „Скарынавы пераклады й Кодэкс 262 ў Ерузаліме". Даклад Вэкслера быў адным з самых цікавых, а ў ім ізраільскі навуковец параўнаў тагачасныя гэбрэйскія й мусульманскія пераклады із Скарынавым і даказваў, што ў Скарыны ёсьць шмат цікавага й яшчэ навукаўцамі не дасьледаванага.

Праф. Арнольд Макмілін гаварыў пра Скарынавы прадмовы й пасьляслоўі ў перакладах Біблії.

Апошні дакладчык, а. А. Надсон, затрымаўся над характарыстыкай Скарынавых акафістаў з „Малой Падарожнай Кніжкі". Айцец Надсон выказаў меркаваньне, што якраз Скарынавы акафісты сьветчаць пра глыбокую Скарынаву веру ў Бога. Тэма гэтая, зазначыў ён, яшчэ патрабуе шмат працы з боку дасьледчыкаў.

Сп. Дж. Дынглі наапошку падзякаваў усім навукоўцам і ўдзельнікам за прыбыцьцё на канфэрэнцыю, а гаспадыням за іхную вялікую дабраахвотную працу пры рыхтаваньні страваў.

У кнізе прысутных на лекцыях аўтару гэтай карэспандэнцыі давялося налічыць 53 прозьвішчы, але, відома-ж, ня ўсе туды ўпісаліся.

Выказваліся прыватныя думкі, што й налета, калі споўніцца сотыя ўгодкі нараджэньня двух выдатных беларускіх пісьменьнікаў і патэаў Алеся Гаруна й Зьмітрака Бядулі, трэба зрабіць пры бібліятэцы імя Скарыны ў Лёндане падобную канфэрэнцыю. Дай Божа!

**К. Акула**

## ДА 500-Х УГОДКАЎ АД НАРАДЖЭНЬНЯ Ф. СКАРЫНЫ

(Працяг з б. 1-й)

маты: аднэю кароль звальняў яго ад усіакае адказнасьці за даўгі брата, а другою браў яго пад сваю апеку й юрыдычную ахову.

Ёсьць паказаньні на тое, што каля 1533 г. Скарына быў у Вітэгбэргу і мог сустрэцца там зь Піліпам Мэлянхтонам ды Мартынам Лютэрам.

У 1535 г. др. Фр. Скарына быў пры двары караля Аўстрыі, Чэхіі й Вугоршчыны Фэрдынанда І. Кароль Фэрдынанд І даручыў Скарыну, як знаўцу батанікі, заснаваць батанічны парк на Градчанах. Гэтак паўстаў адзін зь першых рэнэсансавых паркаў сярэдняе Эўропы. Памёр Скарына ў 1540 годзе.

Хоць др. Францішак Скарына адчуваў сябе паўнапраўным грамадзянінам заходняе Эўропы, ён ніколі не забываўся на сваю зямлю й свой народ. Шчыры патрыятызм вязаў яго зь ягоным „людам паспалітым", для якога ён жыў і працаваў. Дабро грамады ставіў ён вышэй за справы асабістыя. Скарына казаў: „Ня толькі самі сабе нараджаемся на сьвет, но болей ка службе Божай і паспалітаму дабру". Пераклаў ён Біблію на беларускую мову, бо яго „Міласьцівы Бог з таго языка на сьвет пусьціў", і каб „паспалітые" людзі чытаючы яе разумелі.

Свой патрыятызм і вынікаючы зь яго маральна-грамадзкія абавязкі да свайго народу й краю выдатны Палачанін выказаў найяскравей у прадмове да кнігі ЮДЫТЫ: „каб ня толькі жоны, але й мужы ўсякага труду й скарбаў для паспалітага дабра й для айчыны свае не шкадавалі, бо ад нараджэньня зьвяры, што ходзяць у пустыні знаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы што плаваюць у моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы й тым падобнае бароняць вульляў сваіх; — тако-ж і людзі, дзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месту вялікую ласку маюць."

Др. Францішак Скарына займаўся ня толькі выдавецка-літаратурнай і асьветнай дзейнасьцю, а быў ён таксама й сакратаром караля Даніі, сакратаром віленскага біскупа Яна, садаўнікам-батанікам караля Фэрдынанда І, ды лекарам.

Францішак Скарына — першы ведамы беларускі дактарызаваны лекар ды першы двойчы дактарызаваны вучоны ўсяе Ўсходняе Эўропы. Важна адцеміць факт, што на свайго першага доктара мэдыцыны Маскоўшчына здабылася толькі 182 гады пасьля дактарызацыі Скарыны, бо толькі ў 1694 г. ў той самай Падуі дактарат з мэдыцыны здабыў першы Расеец — Пётра Васільевіч Постнікаў.

**У заключэньні:** Др .Францішак Скарына, будучы патрыётам свайго „слаўнага града Полацка" і ўсяе Беларусі, быў адначасна й грамадзянінам усяе Эўропы, меў дачыненьні з такімі выдатнымі людзьмі, як Вялікі Князь і кароль Жыгімонт Казіміравіч, Маскоўскі князь Васіль III Івановіч, Фэрдынанд І кароль Аўстрыі, Чэхіі й Вугоршчыны, кароль Даніі Ганс, Гэрцаг Прускі Альбрэхт, бурмістар Вільні Якуб Бабіч, райца Вільні Багдан Онкаў-Анкевіч, біскуп Вільні Ян, Маскоўскі Мітрапаліт Даніла.

Ягоныя зацікаўленьні абымалі: тэалёгію, літаратуру, права, мэдыцыну, батаніку, друкарства, мастацтва.

Ягоныя асягненьні:

1. Даў пачатак беларускаму друку і друку ўсяе Ўсходняе Эўропы. Вагу Скарынавае піянерскае дзейнасьці ў гісторыі беларускага друку падчырквае факт, што беларускі друк на колькі дзесяцігодзьдзяў выперадзіў друк Маскоўшчыны (1564 г.) ды Украіны (1674 г.).

2. Дзякуючы Ф. Скарыну беларускі народ быў другім сярод славянскіх — пасьля чэскага — што меў друкаваную Біблію ў роднай мове.

3. У гісторыі графічнага мастацтва важная Скарынавая заслуга, што ён першы ў кнігах славянскага друку ўвёў звычай багатага ілюстраваньня кнігаў гравюрамі.

4. Скарына меў вялізарны ўплыў на разьвіцьцё друкарства ў Беларусі дый усяе Ўсходняе Эўропы. Пасьля заснаваньня Скарынам першае на беларускай зямлі друкарні ў Вільні ў 1522 г., да канца 16-га стагодзьдзя. адна за другой паўсталі ў Беларусі іншыя 7 друкарняў: нясьвіжская (1562 г.), дзе друкаваў свае кнігі Сымон Будны, заблудаўская гэтмана Рыгора Хадкевіча (1659 г.), віленская Мсьціслаўца, цяпінская Васіля Цяпінскага, віленская Гарабурды, віленская Мамонічаў і віленская Брацкая. Калі лічыць і Скарынавую праскую, дык гэта будзе 9 беларускіх друкарняў. зь якіх выйшла да канца 16-га стагодзьдзя больш за сто кнігаў, друкаваных у царкоўнаславянскай і беларускай мовах.

Лікам друкарняў і выдрукаваных у іх кнігаў беларускія землі ў 16-м стагодзьдзі займалі вядучае месца сярод краёў Ўсходняе Эўропы. З гэтага гледзішча Беларусь далёка за сабой пакінула землі Маскоўшчыны, дзе да канца 16-га стагодзьдзя выйшла толькі 18 кнігаў у мове царкоўнаславянскай, кнігаў літургічных.

5. Скарына быў ня толькі першадрукаром і перакладчыкам Біблії ў беларускую мову, ён быў і пісьменьнікам. Ягоныя прадмовы да кнігаў — гэта сэрыя маральна-філязафічных разважаньняў, якія сталіся клясыкай беларускай літаратуры.

Слаўны Палачанін першы завяшчаў нам шанаваць сваю родную мову, горда заяўляючы, што яго „Міласьцівы Бог з гэтага языка на сьвет пусьціў."

Значэньня й заслугаў доктара Францішка Скарыны пераацаніць немагчыма. І як расейскі вучоны Антон Флароўскі сказаў:

„У гісторыі культуры й навукі Белай Русі імя Скарыны ўпісанае бесьсьмяротнымі літарамі. Тое, што ён зрабіў вылучае яго ў шэраг самых выдатных дзеячоў кніжнае справы. Вялізарны ягоны ўклад у разьвіцьцё эўрапейскага кнігадруку наагул . . .

**Кнігадрукар і лекар, вучоны й асьветнік, Францішак Скарына паказаў прыклад самаадданага служэньня роднаму народу. Служыць „дабру паспалітаму" завяшчаў ён і нашчадкам. Думаецца, што нашае й наступныя пакаленьні будуць памятаць гэтыя ягоныя запаветы.**

Вечная памяць справе
Францішка Скарыны!
І — наперад у імя ягоных
ідэалаў і ідэяў!"

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## УСПАМІНЫ ПЕРАПІШЧЫКА

**(Да гісторыі перапісу жыхарства ў Польшчы 9 сьнежня 1931 г.)**

У дзяржаўныя межы вэрсальскае Польшчы ўваходзілі вялікія прасторы з жыхарствам няпольскае нацыянальнасьці. Заходняя Беларусь была аднэй з большых этнічна няпольскіх земляў, Беларусы былі аднэй зь лічнейшых гэтак званых нацыянальных мяншыняў Польшчы.

Польскі ўрад стараўся ў сваёй зонкавай палітыцы давесьці перад народамі Эўропы сваё права на гэтыя няпольскія прасторы, а ў нутраной палітыцы скарыстоўваў усе захады, каб авалодаць зямлёй ды палянізаваць мясцовае беларускае жыхарства. Тут трэба згадаць раздаваньне землеў прывезеным з этнаграфічнай Польшчы польскім вайсковым і цывільным асаднікам, пацыфікацыю беларускіх вёсак, што дамагаліся сваіх нацыянальных правоў, ліквідацыю арганізаванага ў часе Першае сусьветнае вайны й нямецкае акупацыі беларускага школьніцтва, забарону дзейнасьці беларускіх арганізацыяў, а таксама прымусовае запісваньне Беларусаў-каталікоў Палякамі ды тварэньне „Палякоў праваслаўнае веры".

Мне давялося браць удзел у якасьці перапішчыка ў перапісе жыхарства ў Ашмяншчыне 9 сьнежня 1931 году. З увагі на паважнае трактаваньне вынікаў гэнага перапісу некаторымі вучонымі да сяньня, я й хачу падзяліцца маймі ўспамінамі.

Дык найперш дзеля лепшага разуменьня справы крыху аб самой Ашмяншчыне. Ашмянскі павет у адміністрацыйных межах міжваеннае Польшчы, а гэта з Смаргонямі, Крэвам, Барунамі і Альшанамі зь пераважна беларускім каталіцкім жыхарствам, быў адным з найбольш нацыянальна сьведамых паветаў Заходняе Беларусі. У часе Першае сусьветнае вайны і нямецкай акупацыі тут існавала шэсьцьдзесят беларускіх пачатковых школаў і кароткі час Беларуская настаўніцкая сэмінарыя ў Барунах, дырэктарам якой быў Сымон Рак-Міхайлоўскі. З Ашмяншчыны было двух беларускіх паслоў у польскім сойме: а. Адам Станкевіч (лідэр Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі) і др. Янка Станкевіч. Ашмяншчына выдала шмат ведамых беларускіх дзеячоў розных палітычных кірункаў. Асабліва шмат ведамых каталіцкіх сьвятароў паходзіла з Ашмяншчыны: о. Язэп Гэрмановіч (пісьменьніцкі псэўдонім — Вінцук Адважны); а. Віктар Шутовіч, апошні сьвятар у паваенным Менску; а. Міхал Пятроўскі, асабліва актыўны ў часе „Сярэдняе Літвы"; а. Павал Пякарскі, старшыня Беларускага гуртка пры Каталіцкай Духоўнай Акадэміі ў Петраградзе ды нейкі час дзекан ашмянскі; а. Гэнрык Гарасімовіч, нейкі час настаўнік ашмянскай гімназіі; а. Францішак Чарняўскі ды шмат іншых. Ашмяншчына — гэта бацькаўшчына Францішка Багушэвіча, ягоная беларуская мова — гэта мова Ашмяншчыны.

Перапісам жыхарства 9 сьнежня 1931 г. кіраваў Ашмянскі староста павету, ці дакладней — Ашмянскае староства павету: вышэйшыя ўрадаўцы староства былі лектарамі курсаў, якія рыхтавалі перапішчыкаў, так званых „камісараў сьпісовых", наглядалі за працай перапішчыкаў у часе іхнае працы, і пасьля заканчэньня перапісу канчальна афармлялі перапісаньня аркушы.

Перапіс трываў два ці тры дні і да выкананьня гэтага праекту патрэбная была вялікая колькасьць добра пісьменных людзей. У нас у Ашмяншчыне, апрача ўрадаўцаў рознўх паветавых установаў і настаўнікаў, былі заангажаваныя вучні чатырох старэйшых клясаў Ашмянскай польскай гімназіі. З нашай клясы (я тады быў вучням пятай клясы) дырэктар Лакуцеўскі выдзяліў толькі каля дзесяцёх хлопцаў, пераважна сялянскага паходжаньня, з зазначэньнем, што будзем працаваць у вясковых (сельскіх) сьпісовых раёнах, дзе людзі жывуць без асаблівых гаспадарскіх і сямейных камплікацыяў.

Дзеля рыхтаваньня перапішчыкаў да працы былі пры старостве зарганізаваныя спэцыяльныя курсы, на якіх дакладна прадыскутоўвалі зьмест аркушы з пытаньнямі, якія мелі выпаўняцца ў часе перапісу. Да асабліва складаных належалі пытаньні аб маемасьці й сямейным стане.

У Заходняй Беларусі ня было цывільных шлюбоў і разводаў; дакумэнты цывільнага стану афармлялі рэлігійныя ўстановы. У выніку маглі быць выпадкі, што, нехта жыў ужо з трэйцяй жонкай, а фармальна ўважаўся жанатым толькі зь першай. Асабліва ўскладняліся ў такіх выпадках справа нацыянальнай прыналежнасьці й прозьвішчаў дзяцей.

Як на дзіў, справа нацыянальнасьці, якая паводля перапісу вызначалася роднай мовай, згодна зь інструкцыямі лектараў курсаў, не належала да складаных. Афіцыйнае ўстановішча было арыентавацца на мову, якой гавораць пацеры, а не якой гутараць дома. Калі нехта сумляваўся, якая ягоная родная мова, трэба было паставіць пытаньне: у якой мове гаворыш пацеры? А дзеля таго, што Ашмяншчына ў асноўным каталіцкая, а мова пацераў польская, дык ясна трэба было пісаць роднай мовай польскую.

Пасьля лекцыі інструтару ўдзельнікі курсу задавалі пытаньні. І мне захацелася паставіць пытаньне: А што, калі некаму з нас трапіць праваслаўная сям'я, а яны моляцца пацаркоўна-славянску, гэта значыць пастара-баўгарску, дык запісаць роднай мовай баўгарскую? (Тады я яшчэ ня знаў, што царкоўна-славянская мова, гэта мова стара-македонская.) Але такое пытаньне магло прычыніцца да выключэньня з курсу, ды яшчэ да розных няпрыемнасьцяў у школе. Дык прыкусіў язык, бо мне вельмі хацелася паехаць па вёсках, паглядзець, як людзі жывуць, а да таго зарабіць на Каляды добрых пару дзесяткоў злотых, бо-ж за тры дні аплачвалі як урадаўцу ў камандыроўцы (на выезьдзе), ды купіць сабе нешта, на што звычайна бацька ня даў-бы грошай.

На заканчэньне курсу далі кожнаму з нас па аднэй хаце ў Ашмяне для спробнага перапісу й выпрабаваньня нашых тэарэтычных ведаў на практыцы.

Мне далі двухсямейны дамок у работніцкім квартале гораду. Абедзьве сям'і работнікаў бровару. З аднэй ня было клопату; у другой даволі складаны цывільны стан: гаспадыня Амэрыканка (значыцца, жыла нейкі час у Амэрыцы), жыла бяз шлюбу, старэйшыя дзеці радзіліся ў Амэрыцы, малодшыя ў Ашмяне, бацькі й дзеці з рознымі прозьвішчамі.

У канцы мае гутаркі, вельмі асьцярожнай і ветлівай, гаспадыня сказала: „пісаць так, каб было добра для нас абаіх".

І выглядае, што я запісаў добра, бо ў старостве мой спробны перапіс прызналі ды прызначылі мяне перапішчыкам раёну недалёка ад гораду ў кірунку на Вільню, у які ўваходзілі тры вёскі: Загорнікі, Буні, Харамжышкі і невялікі двор Сыльвэстрава. Раён гэты быў ведамы з нацыянальнай беларускай сьведамасьці й актыўнасьці. Адтуль недалёка ў Мураванай Ашмянцы дзеяў гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры, адтуль паходзіла шмат мясцовых беларускіх дзеячоў, розных палітычных кірункаў, тут шмат людзей пацеры гаварылі пабеларуску.

Дарэчы, для кожнага сьведамага Беларуса-каталіка ў Ашмяншчыне, каб адчапіцца ад польшчыны, трэба было або навучыцца пацеры пабеларуску, або наагул пакінуць гаварыць пацеры ды больш не хадзіць у касьцёл. У тых міжваенных часох пераважна вучыліся гаварыць малітвы пабеларуску — з малітоўніка „Голас душы".

Перапіс ішоў бяз клопатаў, людзі сьмела называлі роднай мовай беларускую. Толькі некаторыя, зьвязаныя з касьцельнымі арганізацыямі і ў выніку праробленай ксяндзамі-палякамі работы, падавалі польскую мову роднай.

У першы дзень перапісу я ўзяў вёску раськінутую на хутары, дык давялося шмат хадзіць па сьнезе ад асады да асады. Не абыйшлося й бяз прыгодаў. Пад канец дня, на зьмярканьні ўжо, я ўскочыў у прысыпаны сьнегам ручай і змушаны быў раней спыніць працу ды падацца да солтыса, які вызначыў мне хату на начлег. Вечар правёў дапознага ў гутарцы з гасьціннымі гаспадарамі. Назаўтра зраньня, падзякаваўшы за гасьціннасьць, асабліва гаспадыням за прыгожа адпрасаваны мой вучнёўскі касьцюм, падаўся ў вандроўку ад хаты да хаты і ад вёскі да вёскі, выконваючы свае абавязкі „камісара сьпісовага".

На трэйці дзень я пакінуў фальварак Сыльвэстрава. Гаспадар фальварка на прозьвішча Окраса — прымак, собсьніцай была мясцовая шляхцянка. Ён склікаў у сваю сьвятліцу ўсіх жыхароў і, дапамагаючы мне выпаўняць фармуляры, пераконваў запісваць роднай мовай — беларускую. Сваёй жонцы, якая ў гэтым часе была выехаўшы, таксама запісаў беларускую мову роднай. Уголас разважаў толькі, як запісаць дзяцей: матка — беларуская шляхцянка, зямля маткі — беларуская, дзеці гавораць дзьвюма мовамі ад маленства: беларускай і польскай . . . — ды ў канцы разва-

(Заканчэньне на б. 6-й)

# НОВАЯ КРУЖЭЛКА ДАНЬЧЫКА



Данчык пяе йзноў! Гэтым разам ня толькі пад гітару, але пад цудоўны акампаньямэнт розных музычных інструмэнтаў. На кружэлцы 12 беларускіх песьняў: рамансы, патрыятычныя, народныя.

Кружэлка выйшла дзякуючы ахвярнасьці часткі беларускага грамадзтва Нью-Ёрку й ваколіцаў.

Цана кружэлкі разьлічаная толькі на пакрыцьцё коштаў выданьня: 15 амэр. даляраў плюс 2.50 за перасылку звычайнай поштай у Амэрыцы і ў іншыя краіны. Перасылка паветранай поштай у Аўстралію — 8 дал. ,у Эўропу — 6 дал., у Канаду — 3.50 дал. Выхад наступнага музычнага альбому Данчыка будзе залежаць ад таго, як хутка будуць раскупленыя цяперашнія кружэлкі ды як будзе папаўняцца ахвярамі фонд выданьня трэйцяе Данчыкавае кружэлкі.

Замаўляць кружэлку й ахвяры прысылаць на выданьне новае можна, пішучы на дзін зь ніжэй пададзеных адрасоў:

Mrs. Vera Bartul
146 Sussex Drive
Manhasset, N. Y. 11030
Mrs. Julia Andrusyshyn
430 E. 6th St., Apt. 3C
New York, N. Y. 10009

Купіць можна ў наступных асобаў:
Mr. S. Karnilovich
11022 Webster Rd.
Strongsville, Ohio 44136
Rev. A. Janowski
19 River Rd.
Highland Park, N. J. 08904
Mrs. Nadzia Kudasow
42 Deerfield Rd.
Somerset, N. J. 08873
Mrs. Vanda Machnach
1219 Ostrander Ave.
La Grange Park, Ill. 60525

Выдадзеная на ўзроўні амэрыканскае выдавецкае тэхнікі, Данчыкава кружэлка, выдатная сваім гучаньнем і афармленьнем, можа быць першаклясным падарункам з нагоды якога хаця сьвята, візыту знаёмых, дня нарадзінаў, новага знаёмства із сваім суродзічам або чужынцам, пры наведаньні малодшых сваякоў (пляменьнікаў, хросьнікаў і г. д.), можа быць прынесеная заміж кветак або бутэлькі віна ці гарэлкі.

Пашыраючы Данчыкаву кружэлку, Вы будзеце пашыраць цудоўны экспанат беларускае культуры.

**Ініцыятыўная група песьнялюбаў**

# ВІТАЕМ

Рэдакцыя газэты „Беларус'" вітае сп-ню Зору Кіпель, заслужаную й адданую працаўніцу ў грамадзкай ды навуковай працы, намесьніцу загадчыка Славянскага Аддзелу Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі, магістра хэміі й магістра бібліятэкаведы, з здабыцьцём ступені магістра Ратгэрскага Штатнага Ўнівэрсытэту ў галіне параўнаўчае літаратуры.

Шчыра жадаем сп-ні Зоры Кіпель пасьпяховага заканчэньня распачатае працы — аналізу й перакладу ў ангельскую мову беларускага варыянту раману XVI ст. „Трыстан і Ізольда".

**Рэдакцыя газэты „Беларус"**

**„Весткі й паведамленьні Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня".** Атрымана некалькі нумароў з апошнім нумарам 88-м. Гэты рэгулярны двухтыднёвы бюлетэнь падае бягучыя весткі як зь дзейнасьці Ньюёркскага аддзелу БАЗА, гэтак і з агульнага беларускага жыцьця.

**„Беларускі сьвет",** Грэнд Рапідс, ЗША, № 17(46). 1985. Часапіс гэты даўно карыстаецца папулярнасьцю. Ад часу-ж, калі пачаў друкавацца дадатак „Думкі й пагляды" (у гэтым нумары „БС" — дадатак №7) зацікаўленьне „Беларускім сьветам" узрасло. Апошні нумар „Б С" прысьвечаны др. Янку Станкевічу: цікавы інфармацыйны артыкул аб знаным беларускім навукоўцу й мовеведу ягонага сына Вячаслава, кароткая бібліяграфія працаў др. Я. Станкевіча, успаміны аб ім сьв. пам. А. Калодкі ды рэдкія фатаграфіі з жыцьця беларускае грамады ў Вільні перад Другой вайной. Апрача гэтага, у часапісе зьмешчаны працяг успамінаў аб гор. Глыбокім і Глыбоччыне, працяг раману „Вялікія дарогі" У. Глыбіннага ды некалькі цікавых, аўтарства Аляксандры Саковіч, апавяданьняў-успамінаў з жыцьця Беларусі у другой чверці нашага стагодзьдзя. Цікавы матар'ял пададзены В. Стомам у апісаньні звычаяў, зьвязаных з рэлігійнымі сьвятамі (Дзісьненшчыны?). Часапіс у колерах, прыгожа аформлены, з жартамі й гумарам.

**Грунтоўная рэцэньзія на кніжку Дж. Лофтуса The Belarus Secret** зьмешчаная ў лёнданскім беларусаведным гадавіку The Journal of Byelorussian Studies (vol. V, Nos. 3-4, 1984). Аўтар рэцэнзьзіі, брытанскі гісторык праф. Джэймс Дынглі, паказаў мэтадалягічную бездапаможнасьць Лофтуса і непасьлядоўнасьць шмат якіх ягоных цьверджаньняў, што выплывае з Лофтусавае некваліфікаванасьці займацца дасьледваньнямі пытаньняў гісторыі Ўсходняе Эўропы.

У тым-жа нумары „Журналу" зьмяшчаныя артыкулы: Дж. Дынглі пра Вацлава Ластоўскага, А. Барташэвіча пра „Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі" В. Ластоўскага, Я. Запрудніка пра беларускае прадстаўніцтва ў трэйцяй Дзяржаўнай Думе Расеі, М. Сякерскага да гісторыі вырабу паперы ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVI

(Заканчэньне на б. 6-й)

Пачынальніку беларускай грамадзкай і рэлігійнай працы ў Аўстраліі, аднаму зь ініцыятараў куплі Беларускага Дому ў Мэльбурне і ўтварэньня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі ды Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі

**сп. МІКОЛУ СКАБЕЮ**

споўнілася 23 кастрычніка 1985 году 80 гадоў жыцьця, з нагоды чаго шматлікія прыяцелі й супрацоўнікі ў Аўстраліі жадаюць яму многіх гадоў добрага здароўя і ўдачаў як у асабістым, гэтак і ў грамадзкім жыцьці.

**Сябры й супрацоўнікі**

Рэдкалегія газ. „Беларус" шчыра далучаецца да гэтага пажаданьня.

Гісторыку, публіцысту, грамадзкаму дзеячу й супрацоўніку газэты „Беларус"

**Др. ВІКТАРУ СЯНЬКЕВІЧУ**

з нагоды 60-х угодкаў жыцьця, што споўніліся ў лютым сёлета:

Капу гадоў пражыў Ты, брат, —
Ня мала гэта, дый ня шмат.
Дай Божа, каб Ты быў здароў
Ды жыў яшчэ капу гадоў.

**Рэдакцыя „Беларуса"**

# ЯНКА КУПАЛА Й ЯКУБ КОЛАС:
## БІБЛІЯГРАФІЯ

**Укладальнікі: Вітаўт Кіпель і Зора Кіпель. Выданьне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Нью-Ёрк, 1985. 350 б. Кніга выдрукаваная пры грашовай дапамозе Фундацыі імя П. Крэчэўскага. Друкаваў Мікола Пруські.**

У сувязі з ростам вывучэньня беларускай літаратуры на Захадзе наагул ды выкліканым 100-гадовым Юбілеем Купалы й Коласа зацікаўленьнем гэтымі паэтамі ўпасобку, паўстала думка ўлічыць матар'ялы аб паэтах, друкаваныя на Захадзе. Асноўнай думкай было ахапіць бібліяграфіяй тое, што ня ўлічалася ранейшымі бібліяграфіямі — каб не загубілася. Трэба разглядаць гэтую бібліяграфію, як дапаўненьне да ранейшых бібліяграфічных працаў.

Укладальнікі бібліяграфіі імкнуліся зарэгістраваць усё, што пісалася пра Купалу й Коласа ў беларускамоўным друку на Захадзе, паза краінамі савецкага блёку. Улучаныя ў бібліяграфію й працы з друкаў іншамоўных, пераважна з ангельскіх, а таксама з францускіх, гішпанскіх, нямецкіх ды славянскіх. Ахопленыя бібліяграфіяй пераклады твораў Купалы й Коласа ў заходняэўрапейскія мовы й мовы славянскія, зробленыя на Захадзе. Зарэгістраваныя таксама творы паэтаў, пакладзеныя на музыку, ды адлюстраваньне паэтаў у мастацтве. У бібліяграфію ўлучаныя перадачы радыё „Свабода", радыё „Ватыкан" беларускае сэкцыі этнічнага радыё ў Аўстраліі ды радыё праграмы „Нёман" у гор. Чыкага. У кнізе дадзены пералік акадэміяў, рэфэратаў, сьвяткаваньняў і да т.п., зьвязаных з Купалам і Коласам.

Укладальнікі зазначаюць у ўступе да кніжкі (у ангельскай і беларускай мовах):

„Пры ўкладаньні гэтае бібліяграфіі мы карысталіся дапамогай і парадамі шмат якіх інстытуцыяў і асобаў. Уважаем гэтта за свой абавязак ды прыемнасьць выказаць падзяку наступным асобам: сп. Антону Адамовічу за парады, папраўкі ды рэдагаваньне бібліяграфіі; др. Вітаўту Тумашу, др. Янку Запрудніку й сп. Антону Шукелойцю за парады ды безьліч тэхнічнае дапамогі.

За дапамогу ў расшуканьні матар'ялаў, часам і ня гэтак лёгка даступных, мы выказваем падзяку а. Аляксандру Надсону, др. В. Сянькевічу, сп.сп. М. Панькову, Я. Міхалюку, сп-тву Д. і Н. Касмовічам, др. Я. Сурвілу й сп-ні І. Сурвіла, сп. М. Бурносу, др. В. Арэхве, сп. сп. М. Нікану, А. Калодку, М. Скабею, М. Зую, М. Кавылю, Я. Золаку (Даніловіч), В. Стому, В. Даніловічу, В. Шчэцьку, К. Міерляку, Э. Цяўлоўскаму, Я. Юхнаўцу, др. В. Жук-Грышкевічу, др. Р. Жук-Грышкевіч, сп-тву Ю. і Ч. Найдзяком, сп. сп. Ч. Будзьку, У. Брылеўскаму, У. Дутку, С. Жамойду, др. В. Рамуку, сп-ням В. Рамук, Н. Кудасавай, А. Каранеўскай, сп-твам А. і В. Качан, А. і І. Каханоўскім, кампазытару А. Карповічу, сп. А. Міцкевічу, сп-чне Веры Рыч, сп-чне Раі Станкевіч, сп.сп. С. Карніловічу, К. Калошу, Б. Паўку, а у Нью Ёрскай Публічнай Бібліятэцы ды ў Квінсаўскім Каледжы Нью Ёрку мы дзякуем за дапамогу сп-чне К. Балярыне й праф.. Томасу Бэрду.

„За дапамогу ў расшуканьні матар'ялаў, а таксама за дапамогу ў друкаваньні мы ўдзячныя сп. Міколу Прускаму"..

Заканчваюць ўступ укладальнікі гэтак: „Хацелася-б, каб гэтая сьціплая бібліяграфія сталася пачаткавай працай да ўліку вельмі лічнае ды тэматычна шыракадыяпазоннае друкаванае беларускае спадчыны на Захадзе. якая, хоць і параўнальна з малой традыцыяй, аднак вельмі шмат спрычынілася да пашырэньня беларусаведы ды, бясспрэчна, зрабіла значны ўклад у агульнае беларусазнаўства".

**Цана кнігі: $ 35.00**

**Пісаць на адрыс:**
Byelorussian Institute of Arts & Sci.
230 Springfield Ave.
Rutherford, N. J. 07070
U.S.A.

# УГОДКІ ГІМНАЗІІ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

Летась у сьнежані споўнілася сорак гадоў ад часу, калі была адчыненая першая беларуская сярэдняя навучальная ўстанова на чужыне: у Заходняй Нямеччыне ў горадзе Рэгенсбургу пачаліся заняткі ў Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы.

Як ведама, па Другой сусьветнай вайне тысячы Беларусаў, сярод якіх было цімала настаўнікаў ды вельмі шмат моладзі, не захацелі варочацца на бацькаўшчыну, а засталіся на Захадзе. Беларускія настаўнікі й нацыянальныя дзеячы адразу ясна здалі сабе справу, што адно з важнейшых заданьняў — даць моладзі асьвету, атрыманьне якое было ўскладненае ўмовамі паваеннага быту ў чужой краіне. І ў Рэгенсбургу, дзе апынулася ладная колькасьць Беларусаў, улетку 1945 г. пачаліся захады, каб арганізаваць беларускі лягер ды беларускую гімназію ў ім. На адчыненьне гімназіі быў патрэбны дазвол як амэрыканскіх, гэтак і нямецкіх уладаў. Дазвол быў атрыманы немалымі высілкамі тагачаснага кіраўніцтва Беларускага Камітэту на Маршаль Штрассэ, упаасобку сп. Хведара Шыбута ды іншых беларускіх дзеячоў.

Наколькі ведама аўтару гэтае згадкі, маладзейшаму у гэную пару сьвету й частаму тэхнічнаму памагатаму ў розных перакладніцка-адміністрацыйных справах, першыя арганізацыйныя крокі афармленьня гімназіі былі зробленыя ў верасьні 1945 году, адчыненая-ж гімназія была пару месяцаў пазьней. На дырэктара Беларускае Гмназіі быў запрошаны ведамы беларускі пэдагог з Наваградку — др. Аляксандар Орса. Была праробленая немалая арганзацыйная праца, знойдзена патрэбнае абсталяваньне, праведзеная рэгістрацыя вучняў, падабраны настаўніцкі пэрсанал, вучні былі забясьпечаныя жыльлём. Нарэшце, у сьнежані 1945 году пачаліся заняткі ў мала адпаведным памешканьні (як тады казалі — „у малых дамох"). Хутка, па нейкім месяцы, гімназія была пераведзеная ў спэцыяльна абсталяванае, адпаведнае для школьных заняткаў памешканьне, дзе ўжо тады знаходзілася украінская (і, здаецца, яшчэ нейкая) гімназія.

Жыцьцё ў гімназіі ад пачатку было вельмі актыўнае. Паза навучальнай праграмай дзейнічалі розныя гурткі, арганізацыя моладзі. Прайшло праз гімназію каля 250 вучняў. У 1947 годзе настаўніцкая рада гімназіі прыняла пастанову прысвоіць гімназіі ймя Янкі Купалы. Гэтая першая на чужыне беларуская сярэдняя школа прайснавала да 1950 году. Скончылі яе й атрымалі дыплёмы каля 50 асобаў.

Бальшыня выпускнікоў гімназіі ймя Янкі Купалы паканчалі заходня-эўрапейскія й амэрыканскія ўнівэрсытэты ды дасягнулі цімалых удачаў у сваіх прафэсіях. Цімала выпускнікоў гімназіі ймя Янкі Купалы сёньня актыўна працуюць і на беларускай грамадзкай ніве ў краёх свайго пасяленьня.

Было-б пажаданым, каб сярод былых гімназістаў і настўнікаў гімназіі знайшлася ініцыятыўная група і выдала хоць невялікі альманах, прысьвечаны гэтай вельмі важнай беларускай навучальнай установе на чужыне.

**В. Зубкоўскі**

# БЕЛАРУСІКА Ў ДРУКУ

**„Зважай",** часапіс Беларускіх Вэтэранаў, Таронта, Канада, № 4(40), лістапад 1985. У нумары: арт. К. Акулы „Сіла антыбеларускага рэфлэксу"; адкрыты ліст К. Акулы (парасейску) да А. Салжаніцына; заканчэньне артыкулу В. Сяньквіча „Беларускія вайсковыя фармацыі ў лятувіскай арміі" і артыкул таго-ж аўтара „У 40-я ўгодкі адарваньня Беласточчыны ад Беларусі"; артыкулы „Міт пра прычыны савецкай перамогі" ды „І ня звоняць у Афганістане званы Хатыні . . ."; вестка пра знойдзеную ў Кракаве магілу Алеся Гаруна. Сьпіс грашовых ахвяраў на пабудову помнік Алесю Гаруну.

**„Царкоўныя Навіны",** Таронта, № 4(25), сьнежань 1985. Бюлетэнь зьмяшчае калядное пасланьне Архіепіскапа Мікалая, Першагіерарха Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ды хроніку зь беларускага грамадзкага й царкоўнага жыцьця.

**„Камунікаты Рады БНР",** Дэтройт, № 3(16), 1985. Зьмест: прамова др. Язэпа Сажыча, старшыні Рады БНР, на адзначэньні 65-х угодкаў Ураду БНР на эміграцыі ў лістападзе летась у Нью Ёрку ды агляд дзейнасьці сэктараў Рады БНР.

**„Літаратурна-Мастацкі Зборнік",** Трэнтан, ЗША, № 83. Зьмест: разважаньні аб стане беларускае праваслаўнае царквы на чужыне ды ўспаміны аб жыцьці беларускае вёскі ў часе Дргуое сусьветнае вайны.

**ABN Correspondence,** Muenchen, № 34(5), 1985. У часапісе шырака насьветленая дзейнасьць арганізацыяў паняволеных народаў. У артыкуле, прысьвечаным украінскаму руху супраціву ў 1942-1952 г.г. зазначаецца, што ў 1943 г. на тэрыторыі, кантраляванай Украінскай Паўстанскай Арміяй, адбылася нарада ў справе супольнага вызвольнага змаганьня паняволеных народаў. У нарадзе бралі ўдзел і Беларусы.




У выдавецтве газэты „Беларус" выйшла праца др. Станіслава Станкеівча пра Янку Купалу (да 100 годзьдзя ад нараджэньня). Кніжка ілюстраваная, 145 бачынак. У ёй разьдзелы: Янка Купала аб самым сабе. „Чыстка" Купалавых твораў. Забароненыя Купалавы творы дарэвалюцыйнае пары. Забароненыя Купалавы творы савецкага часу. Купала ў супярэчлівых ацэнах літаратурнае крытыкі. Беларускія паэты й пісьменьнікі пра Купалу й пад уплывам Купалы. Паказьнік прозьвішчаў. Даведка пра аўтара кнігі ды пералік купалаведных працаў. др. Ст. Станкевіча. Цана кнігі: $ 10.00.

## УСПАМІНЫ ПЕРАПІШЧЫКА

(Працяг з б. 4-й)

жаньня сказаў запісаць роднай мовай дзяцей беларускую.

У выніку перапісу жыхароў цэлага фальварку толькі адзін пан Окраса падаў роднай мовай — польскую, што ў мяне выклікала сумляваньне ці й ён сапраўды Паляк. А адчуўшы, відаць, маё зьдзіўленьне вынікамі перапісу, заявіў: „Не праймайцеся, няхай староста прыедзе да мяне, я яму прачытаю лекцыю аб дачыненьні рэлігіі да роднай мовы й нацыянальнасьці".

Так у Сыльвэстраве я закончыў перапіс, падцягнуўшы колькасьць жыхароў майго раёну зь беларускай роднай мовай да 90% ды таго-ж дня здаў свае фармуляры перапісу ў старостве.

Па нейкім часе ўсіх нас вучняў паклікалі ў старства, дзе староста асабіста падзякаваў за ўдзел у перапісе й раздаў на памяць спэцыяльна выбітыя бронзавыя мэдалі.

Аднойчы ў нашую клясу на заступніцтва аднаго з настаўнікаў прыйшоў дырэктар Лакуцеўскі. Лекцыі ягоныя былі вельмі цікавыя. Спачатку ён заўсёды гаварыў аб нейкім новым праекце ў горадзе або ў гімназіі, а пасьля аб новых здабытках фізыкі (дырэктар быў настаўнікам фізыкі ў старэйшых клясах і ў нас ня вучыў). Гэтым разам, пераглядаючы журнал, пачаў наракаць, што заўсёды мае з імі біду: здаецца, кажа, выбраў самых мудрых хлопцаў да перапісу жыхарства, а тут у старастве мне кажуць, што вы за дурняў нам прыслалі, колькі фармуляраў давялося перарабляць нанова. Але дырэктар нікога не назваў, не глядзеў у мой бок, і я падумаў, што нехта з нашых калегаў, якія перапісвалі жыхарства гораду, ня даў рады з праблемамі цывільнага стану ці собскасьці. Мне тады й не падумалася, што дырэктар меў на думцы якраз мяне ды такіх, як я. І ніхто ніколі больш аб перапісе не гаварыў, усё заціхла.

Прайшлі гады. І вось увосень 1939 году, ужо за Саветамі, мне, як настаўніку, давялося браць удзел у першым сходзе працоўных Ашмяны, які выбраў часовую гарадзкую управу. У ліку выбраных апынуўся й я. Пасьля сходу выбраныя засталіся на першую нараду. Пачалося ад знаёмства. Калі я падыйшоў да высокага смуглявага чалавека ды, падаючы руку, назваў сваё прозьвішча, ён, моцна паціснуўшы руку, сказаў: „Таварышу, знаю вас яшчэ з вучнёўскай лаўкі, мне віцэ-староста даручыў быў перарабіць вашыя паперы перапісу жыхарства 1931 году, датарноўваючы да вымаганага палажэньня: калі каталік — родная мова, мова пацераў — польская. Памятаю, як віцэ-староста кінуў злосна на мой стол вашыя сьпісовыя фармуляры з словамі: „Паглядзеце, якія гадзюкі растуць у нашых школах". У вадказ былому ўрадаўцу староства і даўгагадоваму члену падпольнай кампартыі Польшчы, я кінуў рэпліку: „Дык-жа ў тым раёне, дзе я быў перапішчыкам — сьведамыя Беларусы, там-жа й пацеры гаварылі пабеларуску".

Тады я ўспомніў лекцыю фізыкі дырэктара Лакуцеўскага ў нашай клясе й ягонае бедаваньне.

**Антон Шукелайць**

### БЕЛАРУСІКА Ў ДРУКУ

(Заканчэньне з б. 5-й)

ст., А. МакМіліна да пытаньня пэрыядызацыі беларускае літаратуры, рэцэньзіі, гадавая справаздача старшыні Англа-Беларускага Таварыства (якое выдае „Журнал") за 1982-83 і 1983-84 гады, нэкралёг па Г. Лаўмянскім ды паказьнік матар'ялаў 5-га тому „Журналу" (гады выданьня 19-20-ты).

Копію рэцэньзіі Дж. Дынглі на кніжку Лофтуса можна дастаць з рэдакцыі „Беларуса".

Skaryna's Anniversary Year — інфармацыйная брашурка Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью-Ёрку пра Францішка Скарыну й Беларусь, у сувязі з 500-годзьдзем ад нараджэньня беларускага першадрукара.

**„Заходняя Украіна і Заходняя Беларусь пад савецкай акупацыяй і пачаткі сацыялізацыі сельскае гаспадаркі: 1939-1941 г.г."** — гэткі загаловак артыкулу Давіда Марпля ў 5-м нумары часапісу Canadian Slavonic Papers за 1985 год. Часапіс гэты выходзіць у гор. Тароньце ў Канадзе. У дасьледваньні прыведзена шмат статыстычнага матар'ялу аб стане сельскае гаспадаркі ў Заходняй Беларусі ды, між іншага, зазначана, што калектывізацыя Заходняй Беларусі не пасьпела поўнасьцю ўжыцьцявіцца перад вайной. Аднэй з прычынаў гэтаму быў супраціў беларускага сялянства.

У часапісе Soviet Studies, які выдаецца ў гор.Глязгаве ў Вялікабрытаніі, у нумары за кастрычнік летшняга году, выдрукаваны артыкул дасьледніка-саветалёга Дарэля Слайдэра аб клясавй структуры нацыянальнасьцяў Савецкага Саюзу. У налізе Беларускай ССР Слайдэр падае гэткія паказальнікі: ад 1939 году да 1970 колькасьць работнікаў у БССР узрасла з 20,8% да 55,7%; колькасьць-жа сялянаў у тым самым пэрыядзе зьменшылася з 60,8 % да 27,2%. Колькасьць урадаўцаў, працоўнае інтэлігэнцыі (групы, якую прынята азначаць, як працоўных „белага каўнерыка") за той самы пэряд узрасла з 11,5% да 17%. Па колькасьці інтэлігенцыі Беларусы працэнтова стаяць у СССР на 14-м месцы: за украінцамі і літоўцамі, а на першым месцы знаходзіцца гэбрэйская група. У артыкуле таксама нямала іншых цікавых дадзеных аб сацыяльнай структуры насельніцтва рэспублікаў.




**Натальля Сьмірнова,** дачка Юркі й Ірэны Сьмірноваў-Каляды, скончыла здабыла сярэднюю асьвету (Норманды Гай Скул, Парма). Натальля сьпявала ў школьным хоры, які славіўся сваймі выступленьнямі і сваёй танцавальнай групай. Увосень 1985 г. Натальля пачала навуку ў Куягогаўскім Камунальным Каледжы ў Кліўленьдзе ў галіне камп'ютэраў. Яна бярэ далей актыўны ўдзел у жыцьці беларускае грамады Кліўленду, яна — наймалодшая сьпявачка ў царкоўным хоры, у жаноцкім ансамблі „Васілёк" Раней Натальля наведвала беларускую сыботнюю школу, брала ўдзел ўва ўсіх грамадзкіх мерапрыёмствах.

## ЗДАБЫЛІ АСЬВЕТУ



**Павал Ягодзік,** малодшы сын Міколы й Валянтыны, скончыў выдатнікам сярэднюю школу ў Барксьвіле, штат Агаё, ды быў прыняты ў Агаяўскі Штатны Унівэрсытэт ў гор. Калюмбусе на інжынерыю. Павал наведваў беларускую сыботнюю школу, даўгі час быў прыслужнікам у царкве Жыровіцкае Божае Маці і надалей бярэ ўдзел ў шмат якіх грамадзкіх мерапрыёмствах.

Беларуская грамада Кліўленду ганарыцца дасягненьнямі Сьцяпана Лукашэвіча, Натальлі Сьмірновай-Каляры й Паўла Ягодзіка ды жадае ім шчасьця і ўдачаў у здабываньні вышэйшае асьветы.




**Сьцяпан Лукашэвіч,** малодшы сын Віктара й Вольгі Лукашэвічаў, скончыў сярэднюю школу (Фэйрвю Гай Скул). Гэтае восені Сьцяпан пачаў навуку ў Кліўлендзкім Штатным Унівэрсытэце ў галіне рэклямы. Сьцяпан быў актыўным спартоўцам у часе свае навукі ў сярэдняй школе ды бярэ й надалей удзел у шмат якіх відах спорту ў беларускім грамадзкім цэнтры „Полацак".

## НОВЫЯ КНІЖКІ

**Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе: бібліяграфія.** Укладнікі Вітаўт Кіпель і Зора Кіпель. Выданьне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Нью-Ёрк, 1985. 350 б.

У кнізе зарэгістравана 2340 пазыцыяў з кароткімі анатацыямі ў беларускай мове. Аўтары імкнуліся ўлучыць у бібліяграфію ўсё, што пісаў беларускі нацыянальны друк аб паэтах, упяршыню зарэгістравалі ўсе пераклады іхных твораў у замежныя мовы ды таксама падзеі, якія адзначаліся на эміграцыі, зьвязаныя зь Якубам Коласам і Янкам Купалам.

Кніга можа служыць добрым дапаможнікам у шуканьні матар'ялаў аб Купалу й Коласу. Уступ да кнігі ў беларускай і ангельскай мовах.

Кніжка, відавочна, чакае на крытычны разгляд яе. Вельмі прыхільная рэцэнзія аб кнізе была надрукаваная ўжо у расейскай газэце „Новое Русское Слово" 11 студзеня летась. Аўтар рэцэньзіі — Р. Палчанінаў.

Цана кнігі 35 даляраў, а выпісваць трэба праз БІНіМ:

Byelorussian Institute of Arts and Sciences, Inc.
230 Springfield Ave.
Rutherford, N. J. 07070

**„Айцы" БССР і іхны лёс.** Аўтар — Аўген Калубовіч. Кліўленд, ЗША, 1985. 80 б. 2-е выд. У кнізе на аснове дакумантальных крыніцаў паказваецца, як расейскія камуністы ніколі не пагадзіліся з паглядамі і крокамі беларускіх нацыянал-камуністаў на неабходнасьць асобнага разьвіцьця Беларусі ды як нарэшце ўсе стваральнікі БССР, беларускія камуністы, былі камуністычнай партыяй зьнішчаны. У гэтым другім выданьні кнігі англамоўнае рэзюме зьместу напісанае др. Вітаўтам Кіпелям.

Кнігу можна выпісваць непасрэдна ад аўтара або праз БІНіМ. Цана: 6 даляраў.

**Ачышчэньне агнём.** Аўтар — Масей Сяднёў. Глен-Коў, ЗША, 1985 218 б. Зборнік вершаў. Гэта пяты зборнік паэзіі Масея Сяднёва. Вершы, пераважна філязофскія роздумы над жыцьцём і навакольлем, напісаныя ў 1983-84 гадох. Цана кнігі: 12 даляраў. Выпісваць ад аўтара:

M. Sednew
15 Alex Lane
Glen Cove, N.Y. 11542
U.S.A.

**Прафэсар Джэральд Каполка,** рэцэнзуючы англамоўную кнігу Шчэпана Зымэра „Пачаткі кірылічнага друкаваньня" (1983) ў англамоўным часапісе „Польскі Агляд" №2, 1985), што выдаецца ў Нью-Ёрку, піша: „Шчэпан Зымэр зварачае ўвагу ў сваёй кнізе на тое, што беларуская мова адыгравала першараднае значаньне на пачатку XVI ст., і гэта дае аснову для гіпатэзы, што якраз Беларусы, а не Ўкраінцы,і напэўна не Маскоўцы, падрыхтоўвалі рукапісы, зь якіх Швайпольт Фіёль друкаваў у Кракаве свае кнігі ды што Беларусы якраз былі таксама карэктарамі кнігаў у прцэце друкаваньня іх Фіёлям".

**У англамоўнай кнізе „Расейская Імпэрыя: некаторыя аспэкты царскае й савецкае каляніяльнае практыкі",** якая выдадзеная супольна Інстытутам Дасьледаваньня Савецкага Саюзу і Ўсходняе Эўропы пры Ўнівэрсытэце імя Джона Караля ў гор. Кліўленьдзе і Ўкраінскай Гістарычнай Асацыяцыяй, два артыкулы датычацца Беларусі: артыкул праф. Мічыганскага ў-ту Рамана Шпарлюка „Нацыянальная гісторыя, як поле палітычнага змаганьня: прыклад Украіны й Беларусі" і др. Вітаўта Кіпеля „Беларусь пад расейскай акупацыяй: мінуўшчына, сучаснасьць, будучыня".

Кніжку гэтую можна набыць або непасрэдна ўва Унівэрсытэце імя Караля або праз Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. Цана 14.50 дал.

**Масей Сяднёў. Раман Корзюк. Раман. Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1985. 314 б.** У слове „Ад Аўтара" сказана, што раман — „. . . Пра беларускі нацыяналізм, пра ‚наццэмаўшчыну' і пра ‚наццэмаў', пра змаганьне зь імі савецкіх органаў бясьпекі. Або можа больш дакладней — пра пошукі беларускай моладзяй, у прыватнасьці студэнцкай моладзяй 30 гадоў, свае, нацыянальнай Беларусі, пра трагізм гтэых пошукаў. У аснову твору пакладзены ня толькі асабісты вопыт аўтара, але ўзяты на ўвагу і вопыт беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі ў цэласьці, што сталася ахвярай чыстак, праводжаных НКВД падчас змаганьня з гэтак званым ‚буржуазным нацыяналізмам', што быў абвешчаны савецкімі партыйнымі ідэёлягамі ў 30-х гадох ‚галоўнай небясьпекай' для цэласьці савецкай імпэрыі. Амаль усе пэрсанажы твору — гэта канкрэтныя, ня выдуманыя людзі зь іхнымі сапраўднымі прозьвішчамі. Я толькі трансфармаваў іх у вобразы, каб яны ажылі для чытача накаў, пісьменьнікаў, паэтаў, мастанова. Апрача студэнтаў, настаўнікоў ,у кнізе фігуруюць ведамыя беларускія дзяржаўныя дзеячы, палітыкі, вучоныя, уключна зь міністрам былога ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)".

**Алег Бембель. Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс. Выданьне ЗБВБ, Лёндан, 1985 г.**

Выдавецтва Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі апублікавала працу Алега Бембеля пад загалоўкам „Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс", якую адмовіліся выдрукаваць менскія выдавецтвы. Кніжка гэтая, 242 балоны друку, выйшла ў Лёндане напрыканцы году летась. Укладальнік прыгадвае, як у 1977 годзе яму адна жанчына дала прачытаць ліст з Масквы ад свайго роднага брата. У лісьце, напісаным паруску, былі выказваньні пра беларускую мову — аб тым, што апошнім часам сфэра ўжытку гэтае мовы звузілася ды што беларускія літаратары „выкапывают из глубины веков давно вышедшие из употребления слова или просто выдумывают новые и преподносят как развитый современный настоящий язык, мало кому понятный. Ведь народ не хочет такого языка, народ предпочитает своих детей посылать не в белорусские, а в русские школы, покупать не белорусские, а русские газеты и т. д.". І далей у гэткім духу.

Пад уплывам гэткіх вось выказваньняў у Алега Бембеля і зьявілася думка „зрабіць невялікую падборку тэкстаў: ‚Беларускія паэты — пра беларускую мову' ", „Зрабіў, — піша Алег Бембель. — І, разам зь ‚лінтом маскоўскага Беларуса', пачаў паказваць яе людзям розных прафэсіяў, пакаленьняў, запытываць: што яны думаюць пра ўсё гэта? . . Іхныя ўражаньні і думкі я запісваў. Некаторыя — самі мне нешта пісалі. І з гэтых запісаў атрымалася кніга, якая цяпер перад Вамі".

Зьмест кнігі „Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс" складаецца з уводнага артыкулу пад заг. „Філасофскі фальклор і філасофская фальклярыстыка" — свайго роду тэарэтычнае абгрунтаваньне патрэбы зьбіраньня й вывучаньня выказваньняў грамадзянаў на актуальныя тэмы.

„Сотні людзей, — піша Алег Бембель, — падзяліліся са мной сваймі думкамі (хто сам пісаў, каго я слухаў з алоўкам). І вось зь іх выказ ваньняў, лепшыя зь якіх скампанаваныя ў пэўнае дыялектычнае адзінства, атрымалася асноўная частка кнігі ‚Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс', названая „Што мы думаем пра цябе —беларуская мова? . .' ".

Далей у кнізе „Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс" ідзе разьдзел „Беларускія паэты пра родную мову". Тут зьмешчаныя выказваньн пра беларускую мову Пятра Глебкі, Янкі Купалы, Цёткі, Якуба Коласа, Ніла Гілевіча, Ядзьвігіна Ш., Максіма Лужаніна ды вершы, прысьвечаныя беларускай мове Рыгора Барадуліна, Максіма Танка, Алеся Гаруна, Ларысы Геніюш, ды іншых беларускіх савецкіх паэтаў.

Найбольшы разьдзел выказваньняў працаўнікоў беларускае культуры, прадстаўнікоў інтэлігенцыі і звычайных рабочых, школьнікаў р пабеларускую мову — больш за 60 асобаў, прозьвішчы якіх аднак не пададзеныя, а зазначаныя толькі нацыянальнасьць, век і прафэсія-занятак.

Канчаецца кніжка падсумаваньнем усіх папярэдніх выказваньняў — прыхільных і адмоўных, часамі варожых, пабеларуску й паруску — якое зрабіў нябожчык Уладзімер Караткевіч пад загалоўкам „Мова — што я думаю пра цябе".

Усе гэтыя выказваньні, бясспрэчна, заслугоўваюць на ўвагу й развагу, бо, як выглядае з усяго, беларуская мова ў Беларусі апынулася перад вялікай пагрозай калі ня поўнага зьнішчэньня яе дык ўсё далейшага заціску ў практычным ужытку.

**Сказ пра Лысую гару. Роздум ля параднай брамы. Ананімныя самавыдавецкія паэмы. З анатацыямі Ант. Адамовіча.** Нью Ёрк, Выдавецтва „Беларус", 1985, 28 бач.

Як ведама, часткі гэтае паэмы, якая ходзіць у рукапісах у БССР, друкаваліся ўжо ў „Беларусе". Аднак рэдакцыяй газэты былі атрыманыя дадатковыя куплеты паэмы, некаторыя куплеты былі зьмененыя, а рукапісны твор Вядзьмака Лысагорскага „Роздум ля параднай брамы", папярэдня ў „Беларусе" зусім ня друкаваўся. Цяпер у кніжцы выдрукаваны абодвы творы і да іх пададзеныя камэнтары й тлумачэньні. Упаасобку паданы альфабэтны паказьнік прозьвішчаў згадваных у „Сказе", ды тлумачацца й камэнтуюцца прозьвішчы й мянушкі з „Роздуму ля параднай брамы".

Гэткім парадкам на захадзе выдрукаваныя дасюль ужо колькі твораў беларускага „Самавыдавецтва", а гэта: „Ліст расейскаму сябру". Лёндан, 1979; „Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс", Лёндан, 1985 ды „Сказ пра Лысую гару", Нью Ёрку, 1985.

Набыць усе тры кніжкі можна праз газэту „Беларус" або праз Беларуска Амэрыканскае Задзіночаньне.

**Беларуская Думка" Но. 31, 1986. 23 б.** У нумары: „Тыдзень Паняволеных Народаў"; І. Касяк — Справаздача зь беларускага ўдзелу ў 18-й канфэрэнцыі Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі ў Далесе, штат Тэксас (ЗША) 9-12.IX.1985 г.; Янка Золак — „Галашэньне Яраслаўны" (перасьпеў фрагмэнта з паэмы „Слова аб палку Ігаравым"); Міхась Кавыль — „Дума пра Андрэя Кміціца (Чытаючы „Патоп" Гэнрыка Сенькевіча); Юры Жывіца — „Сьвяты меч" (нацыянальна-культурная замалёўка з побыту ў Драгічыне над Бугам 6.8.84 г.); І. Касяк — Ліст у галоўную ўправу Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі (паангельску); тры вершы без аўтара; Я. Юхнавец — „Зь дзёньнікаў знаёмых і чужа-знаёмых" (паэзія); Ліст у рэдакцыю газ. „Новое Русское Слово" (парасейску) Язэпа Лешпанкі; Незалежнік — „Жвачка" (палітычная палеміка); нэкралёг па св. пам. кампазытару Д. Верасаву; хроніка зь беларускага жыцьця.



# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ

**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**

*АЙЦЕЦ АЛЯКСАНДАР*
*АЗАРКА МАРЫЯ, ЯНКА й ІРЭНА*
*АЗАРКА НОНА й ЮРКА*
*АКУЛА НАДЗЕЯ, КАСТУСЬ, ЮРКА й АЛЬГЕРД*
*АНДРУСЫШЫН ЮЛЯ, ПАВАЛ, ЮРКА і ДАНЧЫК*
*БАЛКОЎСКІ ЗОФІЯ, АЛЯКСЕЙ і ЯНКА*
*БАКУНОВІЧ МІРАСЛАВА й МІТРАФАН і ДЗЕЦІ ЖОРЖ, ПЁТРА й ЛАРЫСА*
*БАРТУЛЬ ВЕРА, ФРАНЬЦІШ і АНТОН*
*БЕЛЕНІС ЛЮДВІКА й АНТОН*
*ВОЙТАНКА МАТУШКА МАРЫЯ*
*ГАВЕНЧЫК ЯНКА зь СЯМ'ЁЙ*
*ГРАБІНСКІ БАЛЕСЛАЎ*
*ГРЫЦАЙ ЛІЗА й ЯКАЎ і ДЗЕЦІ*
*ГРЭБЕНЬ МІКОЛА зь СЯМ'ЁЙ*
*ГУТЫРЧЫК ЛІТВІНА, СЯРГЕЙ*
*ДАНІЛОВІЧ АЛЯКСАНДРА, БРАНІСЛАЎ і ЭДЗІК*
*ДУБОВІК ЛАРЫСА й АЎГЕН з СЫНАМІ ЭРЫКАМ і АЛЕКСАМ*
*ДУБЯГА ЗОФІЯ, ЖЭНЯ, АЛЕГ, ЮЛЬЯН і ТАМАШ*
*ЖЫЗЬНЕЎСКІ АННА й НІКОДЭМ зь СЯМ'ЁЙ*
*ЗАМОРСКІ ВЕРА, МІКАЛАЙ, ТАНЯ й НІНА*
*ЗАПРУДНІК ВОЛЬГА, ЯНКА, НІНА й ВЕРА*
*КАЖАН ЛЮБА й ВІТАЛЬ, МАРГАРЫТА й ЮЛЬЯ зь СЕМ'ЯМІ*
*КАЖУРА МАРЫЯ, ПЁТРА й АЛЬГЕРД*
*КАЛОША КАНСТАНТЫН*
*КАНАРЧУК ВОЛЬГА й ЯНКА*
*КАРАНЕЎСКАЯ МАРЫЛЬКА й СЬВЯТАСЛАЎ*
*КАРАНЕЎСКАЯ ГЭЛЯ, МІХАСЬ, ВАНДА, ЯДЗЯ, КАРАЛІНА, ДАНУСЯ й МІХАСЬ малодшы*
*КАЧАН ВОЛЬГА, СЫН ЮРКА й НЯВЕСТКА ІОАННА*
*КІПЕЛЬ МАРЫЯ*
*КАХАНОЎСКАЯ ЯНІНА*
*КІПЕЛЬ ЗОРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*КОРЧЫК ЛЮБА і ЮРКА*
*КУШАЛЬ НАТАЛЬЛЯ*
*ЛАШУК АЛЯКСАНДАР*
*ЛІТВІНЕНКА ЕЎФРАСІНЬНЯ й ЯНКА*
*ЛУЖЫНСКІ НАДЗЕЯ, МІХАСЬ, ГЭЛЕНА, НЭЛЯ і ЧАСЛАЎ*
*МАЛЕЦКАЯ АЛІНА*
*МІСЮЛЬ НАДЗЯ й ЯНКА зь ДЗЕЦЬМІ*
*МІХАЛЮК ЛЁЛЯ й ЯНКА*
*МУХА КЛАЎДЗІЯ, ІГАР і ДЭНІС*
*МЯРЛЯК ГАННА, КАСТУСЬ і ВІНЦУСЬ*
*НАЙДЗЮК ЮЗЯ, ЧАСЛАЎ, ЯДЗЯ, КАРНЭЛЯ й ВІКТАР*
*НАРУШЭВІЧ ВОЛЬГА, СТАНІСЛАЎ і СЫН ЮРКА*
*НЕПЕІН НАДЗЯ й АЛЯКСАНДАР*
*НІКАН ЛЕНА й МІКОЛА*
*НОРЫК КІНУСЯ, ЛЁНЯ й ДЗЕЦІ*
*ОРСА ПЁТРА зь СЯМ'ЁЙ*
*ПАШКЕВІЧ ВАЛЯНТЫНА й МІХАЛ зь СЯМ'ЁЮ*
*ПЛЕСКАЧ ТАНЯ й ВАСІЛЬ*
*РАМУК ВЕРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*РЫЖЫ ЯДЗЯ, ЭМІГІД'ЮШ, ПЁТР і ДАРОТА*
*СІЛЬВАНОВІЧ ВОЛЬГА, МІХАСЬ, НІНА, АЛЯКСАНДАР, АНТОН, ЛЕНА, ІРЭНА й АНДРЭЙ*
*СКАБЕЙ МІКАЛАЙ*
*СОКАЛ ЭЛЬЗА й ЯНКА*
*СТАГАНОВІЧ МАРЫЯ, АЛЯКСАНДАР і ЛЕЎ*
*СТАНКЕВІЧ ЗІНАІДА й РАІСА*
*СТАНКЕВІЧ ЮРКА й СЯМ'Я*
*СТРЭЧАНЬ АНДРЭЙ зь СЯМ'ЁЙ*
*СУБОТА КАЦЯРЫНА й АДОЛЬ*
*СУПРУН АННА й ТАМАШ*
*СЬЛІЎКА ЎЛАДЗІМЕР (ВАЛОДЗЯ)*
*ТУЛЕЙКА ВОЛЬГА й МІХАСЬ*
*ШУКЕЛОЙЦЬ АНТОН*
*ШУСТ ГАЛЕНА й МІКОЛА*
*ЧАРНЭЦКАЯ АЛЯКСАНДРА*

*Мастацкае афармленьне Ірэны Рагалевіч*

---

*ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА*
*АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ МОЛАДЗІ*
*вітаець сваіх сяброўак і сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з*
КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ
І
НОВЫМ 1986 ГОДАМ!

---



**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**
вітае сваіх сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ**
**І**
**НОВЫМ 1986 ГОДАМ!**

---

**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ РАДЫ БНР**
ВІТАЮЦЬ З КАЛЯДАМІ ЎСІХ СВАІХ СЯБРОЎ, ПРЫХІЛЬНІКАЎ І ПРАЦАЎНІКОЎ НА БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ ДЫ ЖАДАЮЦЬ ІМ
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

**ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У АМЭРЫЦЫ**
жадае сваім сябром і прыхільнікам
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1986 ГОДУ!**

---

*УСІМ НАШЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ, ДАБРАДЗЕЯМ, ЧЫТАЧОМ І ПРЫХІЛЬНІКАМ, А ТАКСАМА ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ГРАМАДЗТВУ*
*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ*
**І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1986 ГОДУ!**
*АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЕ*
*Рэдакцыйная Калегія „БЕЛАРУСА"*

---

**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА У НЬЮ ДЖЭРЗІ**
**жадае сваім Сябром і Прыхільнікам**
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

## УГОДКІ СЛУЦКАГА ЧЫНУ Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ

1-га сьнежня, 1985 г. у Гайленд Парку, Нью-Джэрзі Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў Усходняга Ўзьберэжжа арганізавала адзначаньне 65-х угодкаў Слуцкага чыну. У сыіоту 30-га лістапада а. Аляксандар Яноўскі адслужыў паніхіду пры помніку Героям на беларускіх могілках парахвіі Жыровіцкае Божа Маці ў Іст Брансьвіку. У часе паніхіды трымала ганаровую варту дэлегацыя вэтэранаў з сьцягамі пад камандай маёра С. Гутырчыка.

На заўтра, у нядзелю 1-га сьнежня па Сьв. Літургіі адбыўся ўрачысты абед у часе якога сп. Міхась Тулейка прачытаў рэфэрат, прысьвечаны Слуцкім угодкам. З нагоды ўгодкаў губэрнатар штату Нью-Джэрзі Томас Кейн выдаў спэцыяльную праклямацыю, якую прачытаў інж. Юры Азарка. Таго-ж дня былі адзначаныя таксама 15-я ўгодкі ад сьмерці інж. Міколы Абрамчыка, старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. З успамінамі аб інж. Абрамчыку і ягоных заслугах для беларускага народу выступів сп. Антон Шукелайць.

У канцы ўрачыстасьці маёр С. Гутырчык уручыў афіцэрскія граматы для 4-х сяброў вэтэранскай арганізацыі.

## З ЖЫЦЬЦЯ Ў АЎСТРАЛІІ

**14-га сакавіка 1986-га г. у горадзе Пэрт (Зах. Аўстралія) адбылося адчыненьне этнічнага тэлябачаньня.** Урачыстасьць адбылася ў „Кансіл Гаўс" з удзелам бурмістра Пэрту сп. Майкала, сэнатара Кука, дэлегата СБС ды прадстаўнікоў этнічнага радыя. Праграмы буудць надавацца ў 34-х мовах. У часе ўрачыстасьці Беларусаў рэпрэзэнтаваў кіраўнік беларускіх радыяпэрадачаў сп. М. Раецкі.

## БЕЛАРУСАВЕДНЫЯ СУСТРЭЧЫ

У раёне гораду Нью-Ёрку пачаліся ў кастрычніку летась беларусаведныя лекцыі для беларуска-амэрыканскае моладзі. Даклады чытаюць сябры танцавальнага ансамблю „Васілёк" (якім кіруе др. Ала Орса-Рамана), а таксама запрошаныя госьці. Па дакладах адбываюцца свабодныя дыскусіі. Зь лекцыямі ў гэтай праграме выступалі: Віктар Тур, Вера Запруднік, Дональд Фішэр, Анна Трылер, Урсуля Шульжыцкая, др. В. Сянькевіч, сп-ня З. Кіпель, а. Ал. Надсон, др. В. Кіпель. Кіруе праграмай лекцыяў інж. Вячаслаў Станкевіч. Зацікаўленых просіцца зварачацца да сп. Станкевіча (тэлефон: 201-334-7922)

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

На выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва склалі ахвяры:

| | |
|---|---|
| Др. Ул. Набагез | $ 100.00 |
| Багдан Паўкэ | 100.00 |
| Др. Л. Трусэвіч | 50.00 |
| Бр. Даніловіч | 50.00 |
| А. Асіпчык | 30.00 |
| А. і сп-ня Сільвановіч | 20.00 |
| Я. А. | 20.00 |
| Д. і Н. Касмовіч | 20.00 |

**Управа БІНіМ паведамляе, што ў друку знаходзяцца выбраныя творы Міхася Кавыля й бібліяграфія скарыніяны, укладзеная др. Вітаўтам Тумашам. Таксама падрыхтаваньня да друку дзьве кнігі „Запісаў" Інстытуту.**

Кожная ахвяра на выдавецкі фонд БІНіМ прыймаецца зь вялікай удзячнасьцяй.

**Управа БІНіМ**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

**ЗША**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Л. і А. Беленіс | $ 200.00 |
| 2. | У. Набагэз | 100.00 |
| 3. | Д. Трусэвіч | 100.00 |
| 4. | Б. Прытыцкі | 100.00 |
| 5. | П. і І. Г. | 100.00 |
| 6. | Ф. Бартуль | 55.00 |
| 7. | Н. Кіт (замест кветак на магілу с. п. В. Шудзейка) | 50.00 |
| 8. | Ц. Грамыка (замест кветак на магілу с. п. В. Шудзейка) | 30.00 |
| 9. | С. Дудар | 30.00 |
| 10. | М. і А. Жызьнеўскі | 25.00 |
| 11. | В. Богдан | 25.00 |
| 12. | Т. Шыбут | 20.00 |
| 13. | М. Грэбень | 20.00 |
| 14. | М. Чупракоў | 20.00 |
| 15. | Л. і Э. Норык | 30.00 |
| 16. | М. Шпакоўскі | 15.00 |
| 17. | Ананімна | 12.00 |
| 18. | Ч. Найдзюк ( у памяць П. Ерміна) | 10.00 |

**Разам: $962.00**

**Праз нашага пдадстаўніка сп. Б. Даніловіча — падпіска й ахвяры:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | В. Станкевіч | $ 30.00 |
| 2. | А. Койка | 20.00 |
| 3. | А. Протас | 20.00 |
| 4. | Я. Ханенка | 20.00 |
| 5. | Я. Азарка | 20.00 |
| 6. | К. Колбік | 15.00 |
| 7. | Л. Стагановіч | 15.00 |
| 8. | Ю. Стагановіч | 15.00 |
| 9. | І. Шчорс | 15.00 |
| 10. | Я. Бабіцкі | 15.00 |
| 11. | Н. Кудасава | 15.00 |
| 12. | П. Орса | 15.00 |
| 13. | В. Шульжыцкі | 15.00 |

**Разам: $230.00**

**КАНАДА**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Я. Скурат | $ 20.00 |
| 2. | М. Шуст | канад. дал. 50.00 |

**АЎСТРАЛІЯ**

**Праз сп-чну М. Каранеўскую:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | М. Мілеўскі | аўстр. дал. 47.00 |
| 2. | М. Антух | 17.00 |
| 3. | А. Бакуновіч | 17.00 |
| 4. | М. Бакуновіч | 17.00 |
| 5. | Я. Гавенчык | 17.00 |
| 6. | М. Каранеўская | 17.00 |
| 7. | О. Качан | 17.00 |
| 8. | В. Кобрын | 17.00 |
| 9. | В. Ліпскі | 17.00 |
| 10. | М. Лужынскі | 17.00 |
| 11. | С. Нарушэвіч | 17.00 |
| 12. | Л. Парэцкі | 70.00 |
| 13. | К. Сіткоўскі | 17.00 |
| 14. | А. Смаль | 17.00 |
| 15. | Сежаковіч | 15.00 |
| 16. | В. Русак | 17.00 |

**Разам: аўстр. дал. 353.00**

**АНГЛІЯ**

**Праз сп. А. Лашука:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Лашук | англ. ф. 10.00 |
| 2. | Мазура | 10.00 |
| 3. | Ананімна | 10.00 |
| 4. | Бутковіч | 7.50 |
| 5. | Стантон | 7.50 |
| 6. | Асіповіч | 7.50 |
| 7. | Пухоўскі | 4.00 |
| 8. | Даменік | 2.50 |
| 9. | Петраш | 2.00 |

**Разам: а. ф. 61.00**

| | | |
|---|---|---|
| 10. | Б. Каўцэвіч | анг. ф. 15.00 |
| 11. | М. Віценчык | англ. ф. 10.00 |

**ШВАЙЦАРЫЯ**

Др. Я. П. Людкэр ... $ 12.00

**ЗША**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. Беленіс | $ 200.00 |
| 2. | Ю. Гасьцееў | 60.00 |
| 3. | Др. Вітаўт і Вера Рамукі | 60.00 |
| 4. | М. Кіпель | 30.00 |
| 5. | Іна Кахаиоўская | 25.00 |
| 6. | Я. Юхнаец | 10.00 |
| 7. | В. Захаркевіч | 10.00 |
| 8. | Я. Міхалюк | 5.00 |

**Разам: $ 400.00**

**Усім ахвярадаўцам, падпісчыкам і прадстаўнікам шчыры дзякуй!**

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"**